
Навіны з Орлі → 4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Міхась Андрасюк. Лавачка → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 27 (3190) Год LXII | Беласток, 2 ліпеня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# XXXI Сустрэчы «Зоркі»



*Паблізу Белавежскай пушчы прайшлі XXXI майстар-класы Сустрэчы «Зоркі». Удзельнікі на працягу тыдня правялі сустрэчы з самымі яркімі беларускімі літаратарамі, мастакамі і журналістамі. Без сумненняў можна сказаць, што летнік развівае творчыя здольнасці, крытычнае мысленне і вучыць правілаў супрацоўніцтва ў групе.*

**Свежы погляд на жыццё**

Сёлетнія Сустрэчы «Зоркі», якія праходзілі з 18 да 23 чэрвеня ў Новым Ляўкове, аб'ядналі не толькі цікавую групу таленавітых удзельнікаў, але і яркіх гасцей. Адной з іх была журналістка, падарожніца Кася Ляўдацкая.

— Мне было вельмі цікава. Я гавару гэта шчыра, — адзначыла Кася Ляўдацкая. — Мне, ураджэнцы Беларусі, пабачыць вось такіх беларускіх дзетак, якія размаўляюць на беларускай мове, задаюць цікавыя пытанні, проста незвычайна. Пасля сустрэчы задавалі мне вельмі цікавыя пытанні. Яны маюць свежы погляд на жыццё. Мне здаецца, што такія летнікі патрэбны.

На самой справе запрошаныя госці (журналістка, падарожніца Кася Ляўдацкая, журналіст Міхась Сцепанюк, журналіст Яўген Вапа, мастак Міраслаў Здрайкоўскі, журналістка Дыяна Нахіла, паэт Андрэй Сцепанюк) могуць чакаць цікавых справаздач з сустрэч, якія апісалі ўдзельнікі. Яны прыкмячалі такія рэчы і факты, пра якія нідзе не прачытаеце!

**«Васілёк»**

Праца над тэкстам — цяжка праца. Каб збалансаваць настрой, члены гэтай рэдакцыі хадзілі на доўгія шпацыры. Менавіта прыпушчанскія лугі з васількамі заінспіравалі іх да прыгожага рысунку і самога загалоўка іх газеткі — «Васілёк».

— Мушу сказаць, што мы стараліся, цяжка працавалі, каб усё гэта было сугучнае, каб было без памылак, — сказала Інэса Гапанюк. — Ну і думаю, што нам трошкі ўдалося!

Рэдакцыя «Васілька» зрабіла стаўку на разнастайнасць і самастойнасць.

— У нашай газеце маем песні, вершы, крыжаванкі, — сказала Уля Марчук. — Гэта наша газетка, мы самі яе стварылі і зрабілі яе так, як мы хацелі. Не спісвалі ад нікога, каб была арыгінальная.

Праца-гульня ў рэдакцыях гэта добрая школа пісання, але таксама дысцыпліны.



Вядома, галоўныя рэдактары мелі шмат абавязкаў, аднак добрыя словы пра створаныя тэксты плылі таксама ў іх адрас. Кожны меў назначаны задачы і ведаў, за што ён адказны.

— Праца была напружанай, але я не адчуваў сябе стомленым, — сказаў Мікола Здрайкоўскі. — Мы супольна працуем, але ўсе рашэнні адносна таго, хто і што робіць, належалі галоўнаму рэдактару.

**«Белы слон»**

Няшмат, нават прафесійных, журналістаў, якія могуць зрабіць публіцыстычную літаратуру — пісаную з вялікай літары. Яшчэ менш такіх, якія сваім пісаннем аціраюцца аб паэзію. А рэдакцыя газеткі «Белы слон» мела такую асобу — Іванку Карсунскага. Менавіта ён запрапанаваў загаловак газеткі. Слон «штурмуе і абараняе!» Сам Іванка на кожныя зорчыны сустрэчы прыязджае з шахматамі.

— Іванка не толькі б'е ўсіх у шахматах, але таксама пабіў усіх сваім фельетонам, напісаным вершам, — сказала на падвядзенні вынікаў летніка Ганна Кандрацюк-Свярубская.

На першай старонцы газеткі можна паглядзець слана, намаляванага Каралінай. Оля Зінкевіч вырашыла, што першая старонка не мусіць прывабліваць колерам. Каб усіх пераканаць зазначыла, што «Ніва» таксама чорна-белая. Па гэтых словах ніхто не пратэставаў, а ідэю падтрымала галоўная рэдактарка — Клаўдзія Галінская. Клаўдзія ўпершыню была галавой рэдакцыі.

— Для мяне гэта выклік, але я сябе адчуваю такой вылучанай! На пачатку было цяжка, але я задаволеная з нашай газеткі. На маю думку, яна самая лепшая.

Варта дадаць, што тэксты ў газеткі паўставалі не толькі пры шчырым заангажаванні членаў рэдакцыі, але і сем'яў удзельнікаў. Дзякуючы таму ў «Белым слане» з'явіўся верш, які Олі Зінкевіч дэкламаваў яе дзядуля.

**«(не) Тоўстая газета»**

Нагляд над гэтай рэдакцыяй мела шматгадовая ўдзельніца Сустрэч «Зоркі» Наталька Васько. Яе правай рукой і галоўным рэдактарам быў Максім Фёнік, які сам не можа злічыць колькі разоў прымаў удзел у летніку. Апрача моцнай «старой» гвардыі ў гэтай рэдакцыі былі таксама асобы, якія прыехалі на Сустрэчы ўпершыню. Як адзначыла Наталька, новыя ўдзельнікі не замаруджвалі працы рэдакцыі, наадварот — інспіравалі.

— У нас Віктар напісаў такое апавяданне пра тоўстую свінню, — сказала Наталька. — Адтуль узяўся загаловак нашай газеты. Хаця мы дапісалі слова «не», бо ўсё-такі газетка не такая ўжо і тоўстая. На маю думку тэксты ў ёй вельмі файныя і цешуся, што асобы, якія першы раз прыехалі на Сустрэчы, не баяліся пісаць і нават атрымаліся ў іх цікавыя рэчы.

Галоўны рэдактар Максім Фёнік амаль тыднёвую працу рэдакцыі падвёў кароткa: «Я думаю, што кожны ў нашай рэдакцыі ўнёс нешта цікавае».

**Сустрачанская трансфармацыя**

Працу ўдзельнікаў летніка суправаджалі таксама гульні. Не толькі са славутай фурманкі спадара Барыса Казлоўскага плылі песні, але таксама ў час вогнішча. На Сустрэчы «Зоркі» прыехаў Янка Карповіч-«Калакольчык» з часткай свайго калектыву «Хутар». Пасля вогнішча ўдзельнікі да позніх гадзін спявалі ўжо не толькі ўсім вядомыя гіты Зэнка Мартынюка, але і тыя, якія іграў ім «Калакольчык».

Дам'ян, які сам упершыню меў магчымасць удзельнічаць у летніку, прызнаўся: «Не ведаю, цяпер так дзіўна размаўляць на польскай мове». Сустрэчы «Зоркі» правакуюць між іншым да такіх высноў. Правакуюць таксама да творчай працы, якой эфектам з'яўляюцца сустрачанскія газеткі. А гэта і гісторыі, якія без працы маладых удзельнікаў засталіся б непачутымі. На самой справе адказы дзецям былі шчырыя і непасрэдныя. Я, і кожны з маіх сяброў-журналістаў напэўна крышку ім зайздросцім, бо паставіць такія пытанні і пачуць такія адказы могуць толькі яны!

XXXI Сустрэчы «Зоркі», якія праходзілі ў днях 18-23 чэрвеня г.г. у Новым Ляўкове, фінансава падтрымалі МУСіА і Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Людзі і смецце

У Маскве гараджан, паводле класіка літаратуры Міхаіла Булгакава, сапсавала кватэрнае пытанне. Апошнія паўгода ў расейскай сталіцы разгарнулася сапраўдная вайна вакол зносу старых дамоў забудовы часу Хрушчова і ранейшых — іх у народзе трапна называюць „хрушчобы”. Бальшыні насельнікаў пляваць на нейкія палітычныя працэсы, на грамадзянскія правы і свабоды, але што датычыць іхняга „курачніка” — тут іх лепш не чапаць. У выніку стыхійных пратэстаў у Маскве ўлады пайшлі нават на перамовы з жыхарамі і нейкія саступкі. Галоўнай мэты тамтэйшая ўлада, можна сказаць, паспяхова дамаглася. А паралельна яшчэ некалькіх. Прыкладам, выпусцілі такім чынам пару незадавальнення, перавялі стрэлкі ад асноўных праблем грамадства і дзяржавы.

У Гродне жарсці разгарэліся вакол іншай бытавухі, даруйце ўжо за гэты слэнг. Дадумаліся раптам (хоць насамрэч зусім не знянацку, а з дакладнай сваёй мэтай) гарадзенскія ўлады ўпарадкаваць працэс сартавання і вывазу гарадскога смецця. Лішне напэўна казаць, але ўсё ж заўважу, што з людзьмі ніхто раіцца і не збіраўся. Сутнасць новаўвядзення простая: старыя смеццяводы ліквідаваць зусім, а ўсталяваць у дварах непадалёк дамоў абсалютна новыя кантэйнеры на новых пляцоўках для асобных відаў смецця — для шкла, для пластыку, для паперы, ну і агульныя.

Асабіста я дзвюма рукамі за такое раздзельнае, як і ва ўсім цывілізаваным свеце, сартаванне смецця. Да ўсяго гадамі многія гарадзенцы не маглі спакойна спаць, паколькі кожную раніцу, нават у выходныя дні, учэпістыя двухжыльныя дворнікі са страшным грукатам выкочвалі пад пад’ездам па асфальце старыя масіўныя кантэйнеры. Нібы кожную раніцу да твайго дома пад’язджаюць танкі. А гэтыя смярдзючыя кантэйнеры заміналі і машынам і пешаходам на ходніках. Вецер разносіў з іх паперы і іншае смецце па ўсім наваколлі дамоў, істотна дадаючы бедным дворнікам работы. Словам, плюсоў ад новага падыходу да сартавання і вывазу смецця намнога больш, чым мінусаў.

Але я катэгарычна супраць такога стаўлення да людзей. Здавалася б, якая праблема, правядзіце сходы ў жыллёва-будаўнічых кааператывах, агульныя сходы насельнікаў асобных пад’ездаў дамоў з прысутнасцю прадстаўнікоў сацыяльных і камунальных службаў. Растлумачце ўсё спакойна і дэталёва, арганізуйце дапамогу старым людзям, якім зараз цяжка стала выносіць смецце да аддаленых смеццевых кантэйнераў. А некаторыя зусім не могуць гэтага зрабіць фізічна. Нават гэтакае маленькае самакіраванне арганізаваць можна. Але не туды тое — улады махнулі нават на свой пастаянны „лехтарат” — маю на ўвазе тых жа бедных і састарэлых людзей. І справа тут не столькі ў тым, што ім — уладным структурам — карціць хутчэй рэалізаваць вялікі праект. І не ў тым, што на гэтых сходах людзі маглі задаваць натуральныя нязручныя пытанні — прыкладам, а як жа з тымі ранейшымі выгодамі смеццеводаў, кошт якіх быў улічаны ад пачатку пры будаўніцтве дамоў і за якія мы плацілі пры набыванні сваіх кватэр?! А рэч найперш у тым, што ўладныя саноўнікі лічаць усіх людзей нейкімі пігмеямі, якія боўтаюцца ў іх пад нагамі. Што людзі, што смецце — якая тут розніца! Рэч менавіта ў пагардлівым стаўленні да чалавека, які, па іх меркаванні, не мае права ні ўплываць на нешта, ні тым больш нешта вырашаць. Што тут слухаць меркаванні і галасы жыхароў. Дзяржава вам нешта робіць — пакланіцеся, абліжыцеся і будзьце ўдзячныя халопы! І логіка тут, канешне, жалезная. Бо калі хоць раз запытацца рады чалавека пра нешта, то ён адчуе сваю важнасць і важкасць. І адзінка тады — ужо не нуль і не глупства. Глядзіш, і на выбарах запытае: а куды пайшоў мой голас, ці палічылі яго адпаведна?

Сартаваць смецце гарадзенцы ўрэшце навучацца і самі. Бунту таксама не будзе, нехта гучна, у межах свайго пад’езда, паабураецца, нехта па звыклай завядзёнцы напіша пару скаргаў, якія чыноўнікі-бюракраты выкінуць у сметніцу.

І праз нейкі час усё паўторыцца зноў, хай сабе і ў іншай сферы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# За што судзяць Ніўскага карэспандэнта



За кожны надрукаваны рэдакцыяй матэрыял — пратакол.

На пазаштатнага аўтара тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» магілёўскага журналіста Уладзіміра Лапцэвіча міліцыя склала ажно сем пратаколаў. Журналіста вінавацяць у «незаконным вырабе прадукцыі СМІ», з чым Уладзімір Лапцэвіч не згаджаецца. „Прадукцыю СМІ вырабляе рэдакцыя выдання, а не пазаштатны аўтар”, — кажа Уладзімір Лапцэвіч: — Я гэта ўсё ўспрымаю як пераслед не столькі за тое, што нешта друкуецца ў «Ніве» пад маім прозвішчам, а менавіта за журналісцкую дзейнасць, якую я вяду як карэспандэнт БелаПАН. Галоўны рэдактар тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» Яўген Вапа адзначае, што пераслед Уладзіміра Лапцэвіча абсурдны, але паказальны: — Праз такія справы, нібы малыя, але малыя справы паказваюць большыя рэчы, відавочна, што з боку ўлады ідзе паляванне на незалежных журналістаў і яно не закончыцца. Калі ўцягваюць у свае інтрыгі ды яшчэ карыстаючыся незалежным тыднёвікам беларусаў у Польшчы «Ніва», я лічу, што гэта правакацыя.

Адміністрацыйная справа супраць Уладзіміра Лапцэвіча грунтуецца на пратаколе агляду інтэрнэт старонкі тыднёвіка Ніва ды звестках з падатковай інспекцыі, аб атрыманні аўтарскіх ганарараў за допісы. Уладзімір Лапцэвіч мяркуе, што судовы разгляд па гэтых справах адбудзецца ў бліжэйшыя тыдні.

**(racyja.com)**

Беласток 26.06.2017 г.

**Суд Ленінскага раёна г. Магілёва**
**212030 вул. Дабралюбава, 4**
**г. Магілёў, Рэспубліка Беларусь**

Рэдакцыя тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва” даводзіць да ведама суда Ленінскага раёна Магілёва, што з Уладзімірам Лапцэвічам рэдакцыя не мае ніякай працоўнай домовы. Публікацыі ў „Ніве”, падпісаныя яго імем і прозвішчам, з’яўляюцца допісамі ў газету ад прыватнай асобы. Ганарары, кшталту тых, якія былі выплачаны Уладзіміру Лапцэвічу, выплочваюцца кожнаму пазаштатнаму аўтару, калі іх лісты публікуюцца. Пазаштатныя аўтары, такія як Уладзімір Лапцэвіч, не займаюцца вырабам і распаўсюдам прадукцыі сродка масавай інфармацыі, а менавіта прадукцыі выдання „Ніва”. Гэтым займаецца ўласна рэдакцыя, у склад якой Уладзімір Лапцэвіч не ўваходзіў і не ўваходзіць. Тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніва” выдаецца згодна заканадаўству Рэспублікі Польшча і распаўсюджваецца на яе тэрыторыі.

**Яўген ВАПА**



Сваімі вачыма

# Польшча — Беларусь. Якое добрасуседства?

Бурлівыя палітычныя справы ў жыцці Польшчы і свету, з якімі маем зараз дачыненне, часта выцясняюць з нашай памяці тыя падзеі з недалёкага мінулага, якія тычацца польска-беларускіх двухбаковых адносін. Менавіта 23 чэрвеня 2017 года адзначылі мы юбілей — дваццаціпяцігоддзе падпісання Трактата аб добрасуседстве і прыязным супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Польшчай. Трактат быў падпісаны тагачаснымі кіраўнікамі абедзвюх дзяржаў — Станіславам Шушкевічам і Лехам Валэнсам. А афіцыйнай датай усталявання двухбаковых стасункаў лічыцца 2 сакавіка 1992 года. Суаўтарам трактата была таксама амбасадар Польшчы ў Беларусі прафесар Альжбета Смулкова, якая да гэтай намінацыі працавала, між іншым, выкладчыкам на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Многія падляшскія выпускнікі беларусістыкі добра памятаюць прафесар Смулкову як выдатнага мовазнаўцу ў галіне беларускіх гаворак Беласточчыны. Шмат магістраў і настаўнікаў беларускай мовы менавіта ў яе пісала свае дыпломныя працы. Так што Польшча сваім першым амбасадарам назначыла асобу, якая ў плане ведання краіны, да якой ехала, напэўна была прафесіяналам. Ейная пабыўка ў 1991-1995 гадах была тым важным момантам, калі паміж дзвюма дзяржавамі пачынаюцца афіцыйныя кантакты і заключаюцца дамоўленасці.

Пасля яе польскімі пасламі ў Мінску былі Ева Спыхальская (1996-1998), Марыюш Машкевіч (1998-2002), Тадэуш Паўляк (2002-2005), Генрык Літвін (2006-2010), Лешэк Шарэпка (2011-2015). Зараз паслом Польшчы ў Мінску з’яўляецца Конрад Паўлік. З беларускага боку пасламі Беларусі ў Варшаве да гэтай пары былі наступныя дыпламаты: Уладзімір Сянько (1992-1994), Георгій Таразевіч (1994-1995), Віктар Бурскі (1995-2000), Мікалай Крэчка (2000-2002), Павел Латушка (2002-2008), Віктар Гайсёнак (2008-2014). Цяпер гэтую пасаду займае Аляксандр Авяр’янаў. Пра паасобных паслоў у кожнай краіне можна распавядаць цікавыя гісторыі. Але я, гартаючы падшыўку «Нівы», прыпамінаў сабе тыя інтэрв’ю беларускіх дыпламатаў нашаму тыднёвіку, якія гаварылі беларусам у Польшчы пра адраджэнне беларускай мовы і культуры, якое вось-вось збудзецца. Пакуль што па поўнай праграме збылася русіфікацыя. Але гэта тэма для іншых роздумаў.

Сама амбасадар Смулкова ў інтэрв’ю для Радыё Рацыя так успамінае той перыяд першай паловы дзевяностых гадоў: «Я хачу яшчэ звярнуць увагу, што трактат, які мы падпісалі, даў падставу для такога сур’ёзнага перагляду ўсіх ранейшых дамоўленасцей, якія былі паміж Польшчай і Савецкім Саюзам, і ў гэтым Саюзе — Рэспублікай Беларусь. Гэта была вялікая праца. Трэба было праверыць усе дакументы і вырашыць, што мы пакідаем, а што абавязкова непатрэбнае трэба адкінуць і нанова афармляць новыя дамоўленасці. І гэтых новых было шмат. На працягу першых трох гадоў маёй працы там падпісалі каля сарака дамоўленасцей. Было даволі многа энтузіязму і такога спадзявання, што ёсць усе магчымыя падставы для таго, каб гэтыя адносіны паміж дзвюма дзяржавамі былі рэалізаваны на новых асновах».

Былі таксама спадзяванні, што любыя праблемы можна вырашаць шляхам перагавораў паміж блізкімі народамі. Пра супольнасць этнічнага і культурнага лёсу згадвалася, дарэчы, у прэамбуле падпісанага трактата. Не ў кожным пагадненні згадваецца так блізкую і супольную спадчыну. А можа проста было гэта звычайнае, наіўнае спадзяванне малых незалежных дыпламатаў, што ўсё паміж намі будзе добра і прыемна. Добрыя намеры і ўяўленні хутка сутыкнуліся ў лабавую з прагматызмам і цынізмам узаемна выключаючыхся геапалітычных інтарэсаў. Адзін цягнік ад’ехаў на захад, другі свае рэйкі пераставіў на ўсходні напрамак. А пасярэдзіне замест жалезнай заслоны ўзнікла папяровая — візавая. І як не круці паміж двума народамі і дзяржавамі пасля дваццаці пяці гадоў, штораз менш супольнага і блізкага. Сумнае ўсё гэта, балючае, але праўдзівае.

**Яўген ВАПА**


Фота Улі Шубзды

# Разлілася вялікая вада

24 чэрвеня ў клубе „Карына", што ў вобрубе Лукі, адбылася канферэнцыя пад лозунгам „Яднае нас вялікая вада". Канферэнцыю сарганізавалі ўправы Нараўчанскай і Міхалоўскай гмін, нараўчанскі Гмінны асяродак культуры ды згуртаванне „Сторчык", а прымеркавана яна была да 40-годдзя вадаёма „Семяноўка". Было крыху мясцовага афіцыёзу ды крыху „простага" насельніцтва.

Адкрываючы канферэнцыю нараўчанскі войт Мікалай Павільч паведаміў, што ініцыятыва канферэнцыі выйшла ад Лявона Хлябіча, раднага Нараўчанскай гміны, загадчыка вадаёма „Семяноўка" ды ад Аляксандра Кардаша, які сабраў шмат дакументацыі пра мінулае. Канферэнцыя мела стаць сентыментальным успамінам пра мясцовае былое, таксама пра бягучыя справы, бо „не ўсе ўсё ведаем".

Затым быў зачытаны ліст ад маршалка Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскага. Некаторыя вытрымкі з ліста: «У маі 1977 года з вялікім размахам распачалася рэалізацыя вялікай і складанай задачы. Ужо ў 1963-1964 гадах была звернута ўвага на недахоп вады ў абшары верхняй Нарвы і з таго часу пачаліся даследаванні наконт вызначэння месца і велічыні вадаёма ў рэчышчы Нарвы, які б пагасіў дэфіцыт. Цэласць праектных прац была завершана ў 1978 годзе; да гэтай працы было прыцягнута дзевяць праектных бюро. Кіраваў працамі Францішак Палыс. У пабудову вадаёма былі прыцягнуты 28 прадпрыемстваў з цэлай краіны. Усё мерапрыемства, з увагі на яго размах, было падзелена на пяць задач: будову сацыяльнай базы, будову гідратэхнічных аб'ектаў, перабудову чыгуначнай лініі, будову канала Нарва — Супрасль (гэтая задача не была рэалізавана) ды ліквідацыю адмоўных паслядоўнасцей уздыму вады». Калі тут нагрувасцілася мноства машын і з'ехала шмат спецыялістаў з усёй краіны, сярод мясцовага насельніцтва сталі хадзіць пагалоскі. Людзі паўтаралі, што напэўна пад вадою будуць размешчаны пускавыя ўстаноўкі ракет з вялікімі складамі. У чарговых гадах пайшла чутка, што будзе пабудавана атамная электрастанцыя, а вада будзе скарыстана для схалоджвання рэактараў. Нечаму дзівавацца, што гэтая інвестыцыя была шырока абмяркоўвана ў розных кругах. Пад вадаём „Семяноўка" было выкупленых і адабраных 289 гаспадарак, распаложаных у дзевяці вёсках. Поўнасцю былі знесены вёскі Боўтрыкі, Буды, Гарбары, Рудня і Лука; часткова калёніі вёсак Бахуры, Тарнопаль і Семяноўка. Чалавечыя драмы выклікала і перасяленне 318 сем'яў і адабранне грунтоў плошчаю ў 3718 гектараў. Пабудаваны былі, праўда, дзевяць блокаў для ста трыццаці пяці сем'яў у Бандарах ды два блокі ў Міхалове для трыццаці сем'яў. Аднак той час многім асацыюецца з вялікай траўмай. Тым, якія надалей хацелі жыць з земляробства, была закладзена вёска Новая Лука. Пра ўсе гэтыя нядолі расказвае зроблены ўраджэнкай Нараўкі Тамарай Саланевіч у 1987 годзе фільм „Ці чуеш, як плача зямля?". Далейшаму лёсу гэтых людзей прысвяціла яна ў 1991 годзе свой чарговы рэпартаж „Возера поўнае слёз". Зараз працуюць тут 22 асобы, якімі многія гады загадвае спадар Лявон Хлябіч.»

Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч у сваім выступленні звярнуў увагу, што вадаём выклікаў рознагалоссі з самага пачатку. Кіраўніцтва гміны намагаецца так скарыстаць гэтае дабро, каб яно было з карысцю. Ёсць ужо пачаткі турыстычнай інфраструктуры. Нарыхтаваны тэрыторыі пад дачнае і адпачынковае будаўніцтва. І калі тут паўстала інфраструктура, то, пасля сарака гадоў, з'явіліся спадкаемцы, якія лічаць, што гэтая маёмасць павінна быць ім вернута. Не аспрэчваем іхніх патрабаванняў, але як гміна, лічым, што гэта не мы з'яўляемся тым суб'ектам, які забіраў уласнасць. Экспрыяпрыявала дзяржказна і яна павінна гэтым заняцца. А я, заявіў войт, пакуль будзе мне суджана кіраваць гмінай, тую маёмасць, якая астаецца ва ўладанні гміны, буду бараніць і ахоўваць. Тое, што гміннае, павінна аставацца гмінным і даваць гміне карысць, а не лёгка раздавацца кожнаму заяўніку. Самаўрад выканаў гіганцкую працу, бо ўвесь вадаём абведзены водаправоднай сеткай, каналізацыйнай, пабудавана ачышчальня сцёкаў, якая зараз абслугоўвае цэлае ўзбярэжжа вадаёма і ёсць яшчэ рэзервы, якія дазволяць падключыць чарговыя інвестыцыі. Сёння маем прыгатаваныя 460 участкаў пад дачнае будаўніцтва, частка якіх ужо мае ўласнікаў. Я зрабіў усё, каб вадаём „Семяноўка" служыў нам усім. Каб урастаў у нашу свядомасць як карысны аб'ект. І яшчэ шмат працы перад намі. І найважнейшая перад намі — ваяводская дарога 687, якая вядзе ў напрамку вадаёма, а сёння не заўсёды заахвочвае магчымых турыстаў ці інвестараў каб хацелі сюды прыехаць. Спадзяюся, што ўсе тут прысутныя будзеце нас падтрымліваць, каб гэтую інвестыцыю выхадаймчаць. А інвестыцыйная дзейнасць гэта не толькі турыстычныя аб'екты — у Семяноўцы маем спецыяльную эканамічную падзону, і ёсць ужо першы інвестар; значыць ёсць шанс, што будзем жыць не толькі з турызму, але таксама з працы ў прамысловасці ці паслугах.

Прафесар Адам Дабраньскі рэфлексійна расказаў пра мясцовую гісторыю, асвятліўшы яе, як чалавек вонкавага паходжання, з больш глабальных пазіцый. Пра вадаём гаварылася часам як пра Байкал ці Балатон, бо выбывалі буйныя ўяўленні. А мясцовая зямля з гістарычнага пункту гледжання была заўсёды прызабытай. Мела гэта свае козыры, бо жылося спакайней, мацаваліся ўзаемасувязі, у тым ліку і з прыродай, якая была адным з фактараў так штодзённасці, як і будучыні. У старапольскі перыяд было тут Навагрудскае ваяводства, а зусім недалёка межавалі з сабою тры ваяводствы — яшчэ Падляшскае і Берасцейскае. Такія граніцы могуць быць карыснымі, калі яны пранікальныя, але могуць несці таксама і небяспеку. Хаця тут былі пушчанскія землі, то насельніцтва не надта карысталася тымі пушчамі. Зямля тут не спрыяла земляробству. Семяноўка была крыху дворскай вёскай, бо быў там невялікі двор. Лука здаўна была мужыцкай вёскай, згадвалі перад 1632 годам, у канцы 18 ст. былі тут 43 гаспадаркі. У наваколлі не было гарадскога асяродка, што тармазіла развіццё; найбліжэйшым горадам быў Ваўкавыск. Беласток у міжваенны перыяд становіцца ваяводскім цэнтрам. У Семяноўцы, паводле перапісу насельніцтва з 1921 года, пражывала 36 католікаў і 524 праваслаўных ды чатырох жыдоў. Паводле мовазнаўцаў гэтыя тэрыторыі былі бясспрэчна беларускія. 1945 год явіцца вялікай трагедыяй, бо побач усталявалася граніца, афіцыйна званая „граніцай дружбы", а па сутнасці была яна непранікальнай; з гэтага і вытокі пазнейшай Усходняй сцяны. У 1945 годзе Лука налічвала 567 жыхароў. Электраток завітаў сюды ў 1962 годзе, што паказвае, як перыферыйныя былі гэтыя тэрыторыі. У Семяноўцы ў 1972 годзе было 882 душ, а ў 1982 — 811, з чаго да ПАРП належаў 61 чалавек, 15 да ЗСЛ, 25 да ЗСМП; гэта тлумачыць агульнае адабрэнне ўсіх дзеянняў тагачасных улад. Інвестыцыя дрэнна трапіла на агульнапольскую сітуацыю. Яшчэ ў 1960-я гады, калі з'явілася задума будовы вадаёма, а быў гэта гамулкаўскі перыяд, гаварылася пра падтрымку сельскай гаспадаркі. А будова вадаёма пачалася на схіле геркаўскага перыяду, калі Польшча ўваходзіла ў крызіс і станавілася ясна, што цяжка будзе рэалізаваць раней задуманыя планы. Плануючы інвестыцыю ніхто не пытаў ні мясцовага насельніцтва, ні навуковых інстытутаў. Планавалася, што тут штодзённа будзе адпачываць каля пяцідзесяці тысяч народу, а па нядзелях і святах 230 тысяч. У гастраномах мелі штодзённа гуляць тысячы чалавек. Меў тут паўстаць адпачынковы цэнтр на 1600 ложкаў ды турыстычны комплекс на звыш тысячу месцаў. Мэтай будовы была „вада для сельскай гаспадаркі", але ўлада, якая выйшла з гэтым лозунгам, раней зрабіла ўсё, каб гэтай вады не было, меліяруючы Нарву, забіраючы з яе ваду; гэты працэс спыніўся пад Харошчай, калі настаў горшы для ўлады час. Планавалася меліяраванне багнаў „Візна" з выкарыстаннем нараўскай вады. Асталіся вялікія страты, не толькі эканамічныя, у выніку заліцця вадою даробку шматлікіх пакаленняў, асабліва ж культурныя страты. Знішчэнне мясцовай традыцыйнай інфраструктуры паскорыла адплыў адсюль моладзі.

Прафесар Алег Латышонак падкрэсліў сваё лучанскае паходжанне, па маці. Прозвішча роду маёй мамы — Стоцкіх выступае з паловы 17 ст., сказаў. Адзіным матэрыяльным рэліктам Лукі зараз з'яўляецца стары спарахнелы крыж і некалькі каменных парогаў; крыж, пастаўлены высялянымі жыхарамі вёскі. Справа доступу да тых крыжоў стала зачынам самаарганізавання лучан, цягнучы за сабою далейшыя падзеі. Памяць пра Луку ўсё жыве. Адзін з нашчадкаў лучан стварыў віртуальную лучанскую старонку, рыхтуецца да выдання кнігі пра Луку. З гэтага задума стварэння віртуальнай Лукі, бо шмат дакументаў захавалася, дзякуючы м.інш. працы спадара Аляксандра Кардаша. Віртуальная Лука мае быць творам камп'ютарнай тэхнікі з паасобнымі хатамі і захаванай памяццю аб іх жыхарах. Іншую задуму падсунуў Кацпар Бірыла, чалавек звонку Лукі, які зладзіў фотавыстаўку пра лучан. Такую, як у Меляшках быў зладзіў Павел Грэсь; у Меляшках таксама былі забраны грунты пад будову канала, які меў адводзіць ваду з вадаёма „Семяноўка" ў раку Супрасль. З гэтых ініцыятыў навеялася ідэя, што можна адбудаваць і Луку рэальную, што можа ўдасца пераканаць гмінныя ўлады, каб стварылі праект адбудовы вёскі Лука шляхам рэканструкцыі сялібь у іх даўняй постаці, з прыцягненнем фінансавання з еўрафондаў. Такая Лука мела б вялікі піараўскі патэнцыял, прыцягваючы турыстаў не толькі з Польшчы. Гэта ілюзія, але ёсць магчымасць вяртання лучанскіх участкаў іх уласнікам, якія, вядома, маюць іншыя планы, але найважнейшае, што Лука можа адрадзіцца.

Лявон Хлябіч, які з вадаёмам звязаны з самога яго пачатку, зазначыў, што сельская гаспадарка не была тут сярмяжная, бо людзі трымалі шмат дабытку, а іх даходы дазвалялі пасылаць дзяцей у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Гаворыцца, што перасяленне было вялікай трагедыяй; безумоўна, з перспектывы часу можна так меркаваць, затое на зломе 1970/1980 гадоў адна рэчаіснасць стала на нашых вачах ператварацца ў іншую рэчаіснасць. Экспрапрыяцыйныя працэсы, як самі людзі тады ацэньвалі, праводзіліся сумленна, усё, ад кусціка парэчкі па забудовы, было выцэнена і належна кампенсавана. Хаця пазней эканамічныя працэсы пайшлі некарысна, аднак у дзень экспрапрыяцыі людзі атрымлівалі тое, чаго хацелі. Людзі атрымлівалі кватэры, калі хацелі, у Беластоку; хто хацеў будавацца, той будаваўся ў Новай Луцэ. Прамоўца заўважыў, што навакольныя вёскі, напрыклад Луплянка, якія не былі выселены ў час будовы вадаёма, таксама апусцелі, асталіся там пустыя хаты і дажываючыя свой век старэчы.

Выступаючы ад імя маршалка Падляшскага ваяводства радны Ваяводскага сейміка Мікола Яноўскі сказаў, што калі б вярнуць усіх выхадцаў 1950-2000 гадоў з нашых мясцовасцей у тыя ж мясцовасці, то аказалася б, што ў Гайнаўскім павеце і Міхалоўскай зямлі мелі б яны найвышэйшую ў Польшчы адукацыю. Нашы продкі вывучылі нас, бо ведалі, як цяжкае жыццё на вёсцы. І ці не пара адплаты нашай інтэлігенцыяй для гэтай зямлі, для тых продкаў, якія пра гэтую зямлю рупіліся? Цяпер ніхто не прымушае да выезду, а як выглядаюць нашы вёскі? Не вадаём „Семяноўка" пазбавіў нас тоеснасці, бо мы самі ад яе пазбаўляемся.

Іншы з прамоўцаў заўважыў, што мабыць ніхто цяпер, хто жыве ў мадэрных дамах, не хацеў бы жыць у такой хаце, у якой жыла ягоная мясцовая бабуля.

Аляксандр Кардаш прадставіў апрацаваны ім альбом, у якім здымкі кожнай хаты з выселеных вёсак і кароткія весткі пра некаторых іх жыхароў. Альбом свежанькі, выдадзены згуртаваннем „Сторчык". Сустрэчу завяршыў пачастунак і выступ гурта „Арт-Пронар" з Нарвы.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Мой клопат пра „Ніву"

У „Ніве" № 24 ад 11 чэрвеня гэтага года былі, між іншым, чатыры допісы з Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ды новыя вершы Канстанціна Целушэцкага з Новага Ляўкова. Ездзіўя па „Ніву" ў Нараўку і ў Гайнаўку — для сябе, для суседзяў і знаёмых з шасці нараўчанскіх вёсак.

Чытачамі 24 нумара роднага часопіса былі Ніна і Міхал Целушэцкія, Ірэна Казлоўская, Вольга і Віталь Скепкі, Сяргей Целушэцкі, Люба Скепка, Раіса Баканач, Лідзія Галубоўская, Лідзія Казлоўская, Альжбета і Уладзімір Красноўскія ды Мікалай Скепка з Новага Ляўкова, Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Зіна Пацэвіч з Нараўкі, Вера Клімюк, Валянціна Самойлік, Галіна Бірыцкая і Марыя Янель з Плянты, Міхал Харкевіч са Старога Ляўкова і Янка Пучынскі з Тарнаполя. Марыя Янель з Плянты любіць чытаць паэтычныя творы Канстанціна Целушэцкага і, між іншым, таму купіла „Ніву" № 24 з яго новымі вершамі. У мінулым годзе яна адна з першых купіла зборнік яго паэзіі пад загалоўкам „Сярод сваіх", вядома, з аўтографам аўтара.

У суботу, 10 чэрвеня г.г. наведаў я краму „Аргелян" у Нараўцы і купіў апошні экземпляр „Нівы". Завёз я яго Зіне Рубчэўскай з Новага Ляўкова, бо яна хацела мець у сябе, між іншым, вершы аднасяльчаніна Канстанціна Целушэцкага. Як я даведаўся, у чацвер і ў пятніцу купілі ў нараўчанскай краме „Аргелян" некалькі экземпляраў нашага беларускага часопіса, а ў тамашняй краме ГСу ўсе шэсць. Гэта мяне цешыць. „Ніву" купляюць і чытаюць.

Жыхароў Новага Ляўкова і навакольных вёсак запрашаю да сябе, у хату солтыса. Заходзьце, калі ласка. Я маю кожны нумар „Нівы". Я распаўсюджваю наш адзіны беларускі штотыднёвік у Польшчы больш дзесяці гадоў. Многія аднасяльчане ды не толькі яны добра пра гэта ведаюць. Вось нядаўна вярнулася з зімовай пабыўкі ў дачкі ў Беластоку мая суседка Лідзія Казлоўская і захацела мець каляндар „Нівы" на 2017 год. Я меў і яна ахвотна яго купіла. Быў ён у мяне ўжо апошні.

Раніцай 16 чэрвеня 2017 года паехаў я на ровары ў Нараўку і купіў у крамах ГСу і „Аргелян" дзевяць экземпляраў „Нівы" № 25 ад 18 чэрвеня г.г. для знаёмых у Нараўцы, Новым Ляўкове, Лешуках, Новінах і ў Плянце. Наш беларускі тыднёвік запрапанаваў я Івоне Езёрэк з Нараўкі (у гэтым нумары ёсць якраз мой допіс пра спадарыню Івону — пад загалоўкам „Кветкі — мая радасць"), Надзеі Кот, Веры Клімюк, Галіне Бірыцкай і Валянціне Самойлік з Плянты, Канстанціну Ярашуку з Навін, Альжбеце Кунцэвіч з Лешукоў, Марыі і Канстанціну Целушэцкім ды Ніне Галубоўскай з Новага Ляўкова. У 25 нумары былі іншыя допісы з Нараўчанскай гміны. А гэтага патрабуюць ад мяне некаторыя тутэйшыя верныя ніўскія чытачы. І вось такі мой клопат пра родны беларускі часопіс, якім я вельмі даражу.

## Новыя прыстрэшкі

Два новыя прыгожыя ў арыгінальным стылі прыстрэшкі на прыпынках аўтобусаў ПКС пабудавалі ў Трасцянцы Нарваўскай гміны Гайнаўскага павета. Зараз Трасцянка налічвае 200 жыхароў. Гэта доўгая вёска, г.зв. вуліцоўка. Яна знаходзіцца на шляху з Нарвы ў Заблудаў. Сюдою ездзяць аўтобусы ПКС і прыватнай транспартнай фірмы „Voyager" з Гайнаўкі ў Беласток. Адзін прыстрэшак стаіць у пачатку вёскі, а другі — у зручным месцы каля царквы. Яны з назвай вёскі „Trześcianka".

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# У Орлі ўзнікне

### КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТР БЕЛАРУСКАЙ МЕНШАСЦІ

Я, як ураджэнец Орлі, шматгадовы гмінны радны ды гісторык-рэгіяналіст, магу рашуча сказаць, што зараз у Орлі і наваколлі людзям жывецца вельмі добра. Натуральна, што некаторыя пажылыя людзі могуць тужыць па мінулым, але пэўна таму, што тады былі яны маладымі, здаровымі і… жыццё было перад імі.

У Арлянскай гміне, як і ўсюды, ёсць такія людзі, якім на ўсё хапае, ёсць такія, якія ледзь зводзяць канцы з канцамі, і ёсць многа бедных — кожная чацвёртая асоба карыстаецца сацыяльнай дапамогай. Арлянская гміна, дзякуючы буйным інвестыцыям на яе тэрыторыі ды з пункту гледжання даходаў на аднаго жыхара стала ад некалькіх гадоў лічыцца багатай. І гэта факт. Бюджэт гміны штогод папаўняецца амаль шасцю мільёнамі злотаў падаткаў ад буйных фірм; праўда, каля шасцісот тысяч адыходзіць з яго на г.зв. янosікава.

Чаму ж тады пішу, што ў нашай гміне жывецца добра? Для прыкладу, пачалі нас заўважаць суседнія гміны. Адна з іх пачала быццам „падказваць", каб Арлянская гміна даклала да мадэрнізацыі дарожнага насцілу павятовай дарогі на ейнай тэрыторыі; а гэта таму, што тою дарогай карыстаюцца жыхары Арлянскай гміны на шляху ў Бельск. Пакуль што на гэта няма згоды, бо гэта недарэчнасць — Арлянская гміна дафінансоўвае мадэрнізацыю павятовых дарог, але толькі на сваёй тэрыторыі.

У „Ніве" ад 7 сакавіка 2007 г. у артыкуле „Арлянская ветравая ферма" арлянскі войт сказаў: „Нашай гміне патрэбнае ў першую чаргу развіццё. А каб было развіццё — неабходныя грошы. Сама пабудова дарог ці каналізацыі, ці вясковых святліц — развіцця не дае. Таму і пошукі розных дзеянняў ужо ў 2007 годзе, калі пра ІКЕЮ яшчэ ніхто ў нас не думаў…".

## Інтэрв'ю з войтам Арлянскай гміны Пятром СЭЛЬВЕСЮКОМ

**— Спадар войт, Вы ўжо доўга на пасадзе. Ці гаспадаранне падабаецца, ці яшчэ многа працы перад Вамі?**

— Доўга — гэта тэрмін рэлятыўны; звыш дзесяці гадоў. Самыя гады гэта прысвечаны мясцовай справе кавалак жыцця, які патрабаваў многа самаахвяравання. Аднак калі ёсць ахвота да працы і задумы, то заўсёды ўзнікаюць інвестыцыйныя патрэбы, ёсць што будаваць і перабудоўваць.

**— Арлянская гміна багатая. Ці такая багатая гміна можа нешта зрабіць, каб — для прыкладу — затрымаць маладых людзей на месцы, каб не выязджалі?**

— Арлянская гміна не такая багатая, яна крыху багацейшая за суседнія. Гэты наш большы даход бярэцца выключна з дзеянняў Гміннай рады і войта. Яшчэ дзесяць гадоў таму Арлянская гміна была ў ліку найбяднейшых у маштабе краіны. Цяпер даход вялікі, але і патрэб шмат.

Даход вялікі таму, што вялікія паступленні з падаткаў. Гэта адно, а другое — лік насельніцтва гміны меншае. Той даход лічыцца на аднаго жыхара; калі лік жыхароў падае, то той даход расце. Дэмаграфічныя працэсы адбываюцца і ў ваяводстве, і ў краіне, і ў Еўропе. Насельніцтва старэе і мы не ў змозе гэтае змяніць ці спыніць, бо дзеля гэтага патрэбныя комплексныя дзеянні так самакіраванняў, як і ўрада. А маладыя людзі застануцца ў месцы жыхарства толькі тады, калі там будзе перспектыва добрай працы, добрага заробку і развіцця. Вядома, што не кожны хоча жыць і працаваць у вялікай агламерацыі як, прыкладна, Варшава.

Мы ўвялі праграму даплат да лекаў — гэта паклон у бок старэйшых людзей. Увялі праграму падтрымкі адукацыі таленавітых дзяцей і моладзі з тэрыторыі Арлянскай гміны; частка з іх вернецца сюды і зойме нашы месцы.

**— У Орлі можна заўважыць, што крыху маладых людзей — мясцовых і прыезджых — пабудавалася. Ёсць такія, якія разглядаюцца за ўчасткамі для пабудовы.**

— Гэта добра. Некаторыя хочуць жыць на вясковых тэрыторыях, жыццё ў горадзе іх не спакушае.

**— Якія ў нас цэны будаўнічых участкаў?**

— Мяркую, што прыблізна аднолькавыя. У нас добрая інфраструктура, водаправоды і каналізацыя, добры асфальтаваны даезд да тых участкаў. Кожную нерухомасць можна купіць, дамовіцца пра цану. Па банэрах відаць, што крыху нерухомасцей для продажу ёсць. Цэны ўчасткаў у Орлі напэўна ў два ці тры разы меншыя



чым у Бельску. Амаль кожны мае цяпер самаход дык не павінна быць праблем з даездам у Бельск на працу ці ў школу.

**— Ветравая ферма — ці гэта ўдалая інвестыцыя?**

— Мяркую, што так. Пытанне: ці камусьці гэтая ферма перашкаджае цяпер? Нікому, бо людзі прывыклі, пабачылі, што яна не такая страшная. У нас кожны інвестыцыйны працэс запускаецца ў выніку кансультацыі з людзьмі. Пра тыя фермы шмат пісалася ў нашых гмінных газетках, былі размовы на грамадскіх сходах. Дзякуючы таму, што інвестыцыя прасоўвалася яўна і празрыста, не было пратэстаў.

**— Вымерны даход з фермы?**

— Два працэнты ад вартасці будоўлі плюс падатак за ўбудаванне структуры ў дарожны пояс.

**— Ці ўладальнікі грунтоў таксама атрымліваюць даход?**

— Былі падпісаны натарыяльныя дамовы на арэнду ўчасткаў і яны штогод атрымліваюць аплату за тое, што турбіны стаяць на іх палях. Наракання ад уладальнікаў не чуў.

**— IKEA. Праводзіцца мадэрнізацыя чыгуначнай лініі між Беластокам і Бельскам. Ці гэта ўскладніла пастаўкі сыравіны з Беларусі?**

— На гэтую тэму нічога мне не вядома. Пуці мадэрнізуюцца, бо былі запушчаны. Мадэрнізацыя патрэбная таксама для пасажырскага транспарту. Рамонт праводзіцца адрэзкамі і цягнікі курсіруюць пастаянна.

**— Ці Арлянская гміна карыстаецца вонкавымі датацыямі?**

— Яны заўсёды патрэбныя. Мы падаем заяўкі і раз атрымліваем, іншы раз не. Цяпер найчасцей прымаецца пад увагу прыход на галаву насельніцтва, які ў нас вышэйшы чым у іншых гмінах, беспрацоўе ў гміне таксама адносна невялікае і ў сувязі з гэтым найчасцей тых сродкаў не атрымліваем. Было так пры ранейшым урадзе, так жа і цяпер. Шчыра кажучы — найлепш быць у такой сітуацыі, калі самі можам самастойна і фінансаваць, і праводзіць інвестыцыі. Быць незалежным і не спадзявацца дапамогі звонку.

**— У маі Гмінная рада прыняла рашэнне наконт змены назвы вуліцы Чырвонай Арміі на ранейшую — Пасвентную. Ці гэта была адзіная справа патрабуючая змены?**

— Помнікаў такога характару ў нас няма. Некаторыя пыталі пра назву вуліцы 1 Мая, але гэта міжнароднае свята працы. Некаторыя заўважалі, што ёсць вуліцы Вызвалення, Партызанаў, але ў гэтых назваў шырокае значэнне.

**— Ці ёсць магчымасць прыдання Арлянскай гміне больш турыстычнага характару?**

— Сумняваюся, бо такіх гмін, як наша, вясковых, у Польшчы палова або і больш. Мы не ў пяці кіламетрах ад Белавежы, ад Белавежскай пушчы. У нас няма асаблівых козыраў. Вядома, можна стварыць турыстычны шлях, калі хто едзе ў Белавежу дык можа заехаць у Орлю, пабачыць сінагогу ці іншыя помнікі. І гэта мае сэнс. Не мае сэнсу дубліраванне таго, што ёсць у іншых гмінах.

**— Новыя інвестыцыі ў Орлі ў бягучым годзе?**

— Пабудова Гміннага цэнтра культуры; мы тут завяршаем працэс вылучэння выканаўцы. Мяркую, што фірма пачне працу ў чэрвені. Гэта чаканая дзесяткамі гадоў інвестыцыя і ніколі не было такіх фінансавых і функцыянальных магчымасцей пабудовы такога цэнтра. Ён будзе служыць развіццю культуры нашай беларускай меншасці і будзе — так спадзяюся — гуртаваць меншасць вакол цэнтра. Бо гэты цэнтр узводзіцца не толькі для жыхароў Орлі ці гміны, але, мяркую, стане такім асяродкам культурнага жыцця беларускай меншасці ў гэтай частцы рэгіёна. Дзеля гэтага маем і фінансавы, і мастацкі, і інтэлектуальны патэнцыял. Пара ўжо, каб узнік тут цэнтр жыцця беларусаў

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў Міхал МІНЦЭВІЧ

# Пярэдняя дамба супраць беларусаў


Вёска Лука, фота Янкі Целушэцкага

**працяг з 26 н-ра «Нівы»**

## Забраць сваім, аддаць чужым

Спадчыннікі маюць **права вярнуць** сабе родную зямлю, калі яна не была выкарыстана на мэту якая была ўказана ў рашэнні пра экспрапрыяцыю. Гэтак вынікае са зместу арт. 136, уст. 1 і 2 закона ад 21 жніўня 1997 г. пра гаспадарку нерухомасцямі (Dz.U. 2004, nr 261, паз. 2603 з пазнейшымі зменамі): „Экспрапрыяваная нерухомасць не можа быць выкарыстана на іншую мэту, чым названая ў рашэнні аб экспрапрыяцыі, пры ўліку арт. 137, хіба што папярэдні ўласнік ці яго спадчыннік не пададуць заявы на вяртанне гэтай нерухомасці" ды „У выпадку рашэння намеру выкарыстання экспрапрыяванай нерухомасці або яе часткі на іншую мэту, чым названая ў рашэнні аб экспрапрыяцыі, адпаведны орган паведамляе папярэдняга ўласніка або яго спадчынніка аб гэтым намеры, інфармуючы адначасова аб магчымасці вяртання экспрапрыяванай нерухомасці".

І тут уся сутнасць праблемы з зямлёй, якая не была выкарыстаная згодна з мэтай пабудовы вадасховішча Семяноўка і канала Нарва — Супрасль. Войт Нараўчанскай гміны, які з'яўляецца органам адпаведным для гэтага дзеяння, гэтага не робіць, а распараджаецца зямлёй між іншым лучан, прытым не інфармуючы спадчыннікаў, супраць іх і супраць закона. Лучане заклікалі войта да спынення правапарушэння і скардзяцца на яго бяздзейнасць у вышэйшыя інстанцыі. Хаця мае веды адносна спраў, якія вядуцца ў Павятовым старостве ў Гайнаўцы, датычных патрабавання вяртання экспрапрыяваных нерухомасцей, ён якраз прыспешвае дзеянні, якія маюць на мэце продаж зямлі набытай праз экспрапрыяцыю, напрыклад 10 сакавіка 2017 г. былі прададзены чарговыя сядзібныя ўчасткі з нумарамі 932, 933, 934, 935, 936.

З вышэйўказанай праўнай рэгуляцыі вынікае, што ў выпадку выканання фармальных патрабаванняў (намеру выкарыстання экспрапрыяванай нерухомасці або яе часткі на іншую мэту, чым указаная ў экспрапрыяцыі) орган адміністрацыі абавязаны да паведамлення былога ўласніка або яго праўных наступнікаў аб гэтым намеры. Значыць, гэты орган мае абавязак выканаць матэрыяльна-тэхнічныя дзеянні, аб якіх гаворка ў арт. 3 пар. 2 пункт 4 закона ад 30 жніўня 2002 г. Закон аб вядзенні спраў перад адміністрацыйным судом (Dz. U. 2012, паз. 270 са зменамі). Такое тлумачэнне вынікае з факту, што паведамленне, аб якім гаворка ў арт. 136 уст. 2 у.г.н., з'яўляецца не толькі інфармацыяй, дазваляючай былому ўласніку (або яго юрыдычнаму спадчынніку) здабыць веды пра намеры адміністрацыі. Гэтае паведамленне з'яўляецца атрыманнем «roszczenia publicznoprawnego», якое будзе мець на мэце «odzyskanie» экспрапрыяванай нерухомасці. Як вынікае з арт. 136 уст. 2 і 5 у.г.н., пасля атрымання паведамлення былы ўласнік (або яго спадчыннік) мае **3 месяцы** для таго, каб падаць заяву на вяртанне экспрапрыяванай нерухомасці і такая пададзеная заява абавязвае орган да выдання рашэння аб прадмеце экспрапрыяванай нерухомасці. У сваю чаргу калі былы ўласнік ці спадчыннік гэтага не зробіць на працягу 3 месяцаў ад даты атрымання паведамлення, азначае гэта пагашэнне права на патрабаванне вяртання экспрапрыяванай нерухомасці.

Трэба адзначыць, што гэтае паведамленне, аб якім гаворыць арт. 136 уст. 2 і наступныя ў.г.н. з'яўляецца актам з абсягу публічнай адміністрацыі наконт права вынікаючага з закону, а такім правам з'яўляецца права на патрабаванне вяртання экспрапрыяванай нерухомасці; гэтае права пагасае, калі асоба, маючая гэтае права (былы ўласнік ці яго спадчыннік), не пакарыстаецца ў час вызначанага тэрміну, мае яно матэрыяльна-праўны характар. Афармленне заявы пададзенай на паведамленне патрабуе ў адміністрацыйнага органа выдачы адміністрацыйнага рашэння аб вяртанні нерухомасці.

Прытым у судова-адміністрацыйных рашэннях прынцып абароны выкарыстання (прызначэння) экспрапрыяванай нерухомасці на іншую мэту, чым названы ў рашэнні аб экспрапрыяцыі прылічана да гэтак званых «roszczeń» канстытуцыйнага характару. У ацэнцы судоў, калі экспрапрыяцыя з'яўляецца ўмяшаннем у сферу канстытуцыйнага Правіла аховы ўласнасці і магчымае (дапушчальнае) толькі ў асаблівых выпадках, дык незрэалізаванне мэты адмаўляе патрэбу такога ўмяшання. Таму правілы арт. 136 і 137 у.г.н. мусяць быць інтэрпрэтаваныя дакладна, без ніякіх адступленняў. Галоўны адміністрацыйны суд у рашэнні ад 10 мая 2012 г. (I OSK 718/11), пацвярджаючы канстытуцыйны ранг вяртання экспрапрыяванай нерухомасці ў выпадку, калі яна невыкарыстаная згодна з публічнай мэтай, для якой наступіла экспрапрыяцыя: «Орган абавязаны паведаміць папярэдняга ўласніка або яго спадчыннікаў, якія маюць права на патрабаванне вяртання нерухомасці. Парушэнне гэтага абавязку органам можа весці да абвяржэння самай сутнасці канстытуцыйнага права патрабавання звароту нерухомасці і абгрунтавання таго, што вынікі таго парушэння будуць перакінуты на папярэдняга ўласніка або яго спадчынніка».

Значыць, не могуць быць самі вінаваты, што не ведалі. Вяртанне роднай зямлі гарантуецца законам і канстытуцыяй і ахоўваецца правам, калі публічная мэта, дзеля якой была экспрапрыяваная нерухомасць, не была зрэалізавана, або экспрапрыяваная нерухомасць не з'яўляецца неабходнай для гэтай мэты. Юрыдычная пазіцыя і інтарэс публічнага суб'екта, дасягнутыя праз такую экспрапрыяцыю, мусяць уступіць перад канстытуцыйна ахоўванай юрыдычнай пазіцыяй грамадзяніна. Далейшае прабыванне ўласнасці асобы ў публічнай уласнасці не мае ў такім выпадку канстытуцыйнага абгрунтавання. Затрымліваючы ў такой сітуацыі экспрапрыяваную нерухомасць дзяржава атрымлівала б матэрыяльныя карысці коштам грамадзяніна...

Лучане, беларусы, праваслаўныя, перакананы, што адмаўленнем інфармавання былых уласнікаў і іх спадчыннікаў аб распараджэнні іх зямлёй войт Нараўчанскай гміны парушае канстытуцыйныя правы належныя паасобным грамадзянам, прытым робіць гэта беспакарана, што стаіць у супярэчнасці з прынцыпамі дзяржавы. Інакш выглядае справа, калі дзяржаўная казна або адзінка тэрытарыяльнага самаўрада ўжо прадалі экспрапрыяваную нерухомасць асобам трэцім, абмінуўшы прадбачаную працэдуру, таму што збыццё гэтай нерухомасці можа быць падставай адмаўлення вяртання папярэдняму ўласніку або яго спадчынніку, нават калі выкананыя ўмовы арт. 136, уст. 3 у сувязі з арт. 137 у.г.н. Такое рашэнне было б невыканальным з натуры, але не азначае пазбаўлення яго праву экспрапрыяванага і аб гэтым будзе вырашаць суд — былыя ўласнікі маюць права на кампенсацыю. Заўважаецца, што неінфармаванне органамі публічнай адміністрацыі аб намеры выкарыстання экспрапрыяванай нерухомасці на іншую мэту, чым у рашэнні аб выкарыстанні яго нерухомасці, нярэдка можа весці да ўстарэласці патрабавання кампенсацыі за шкоду, што выклікае яшчэ большае пачуццё крыўды і несправядлівасці.

Трэба звярнуць увагу на тое, што калі зацікаўленыя суб'екты стануць дабівацца сваіх правоў перад судамі і выступяць за кампенсацыю шкоды, можа тады дайсці да таго, што занядбанні войтаў, звязаныя з невыкананнем абавязку (інфармавання аб намерах продажу зямлі або прызначэння яе на іншыя мэты) могуць давесці да таго, што такія дзеянні будуць палічаны як злачынства з арт. 296 к.к, паколькі сродкі з продажу тых нерухомасцей у чужыя рукі могуць аказацца ў параўнанні з коштам кампенсацый намнога меншымі, і гміна будзе мець вялікую фінансавую шкоду. І прыйдзецца плаціць кампенсацыі з супольных гмінных грошай — грошай усіх жыхароў.

У наступным адрэзку сітуацыя экспрапрыяваных грунтоў, якія ўвайшлі ў склад участкаў пазначаных цяпер нумарамі 1457 і 1459.

*(працяг будзе)*

Міра ЛУКША

## З мінулага Барысаўкі

З **Пятром Ялозам** пазнаёміўся я ў рэабілітацыйным аддзяленні шпіталя ў Гайнаўцы. Вось што мне расказаў 86-гадовы дзядуля:

— Барысаўка калісьці налічвала 68 дамоў. Вуліца пралягала проста, быццам пад шнурочак з пачатку да канца. Гаспадарка ў нас невялікая была — 9 гектараў поля. Мелі пару коней, кароўку, дзесяць авечак. Кароў пасвіў пастух, вёска наймала. Пастух дамаўляўся на плату паасобна з кожным гаспадаром. Ядой і начлегам забяспечваў гаспадар, за якога адрабляў чаргу. У каго была адна кароўка, у таго пастух сталаваўся адзін дзень, у каго былі тры кароўкі, у таго тры дні. Зранку давалі снеданне, на абед давалі сухі паёк — у мяшочак клалі саланіну з хлебам, пірог, варанае мяса або кусочак соленага кумпяка.

Пашы было ўдосталь, многа бралі ў арэнду ў лясніцтве. За наём лесніку плацілі нямнога. Быдла праганялі абгароджаным жэрдкамі выганам. Статак налічваў каля шасцідзесяці штук. Каровы былі так прывучаны, што падаваліся на гук трубы — не была гэта сапраўдная труба, але звычайны ражок, які выдаваў звонкі гук. Жывёла тады падавалася адна за другою шнурочкам. Здаралася, што хітрэйшая красуля трапляла на добрую траву, наядалася ўволю і залягала ў полі; пастух вымушаны быў доўга яе шукаць. Авечак і коней кожны гаспадар пасвіў на сваёй калёніі. Камасацыю грунтоў правялі ў 1939 годзе. Поле засявалі жытам ды іншым збожжам. Садзілі бульбу, гародніну. Адну палоску пакідалі на папар, неабсеяную.

У сяле было шмат моладзі, вылучалася некалькі кампаній. Забавы ладзілі старэйшыя хлопцы. Пры вуліцы збудавалі пляцоўку, зверху накрылі галінкамі бярэзіны. Для музыкантаў рабілі памост. Найчасцей наймалі двух музыкантаў — гарманіста і бубнача; на царкоўны фэст (Юр'я або Пакрову) — трох. Найбольш выступаў музычны гурт гарманіста Дубінскага з сынам Росцікам з Гайнаўкі. Гэты моцна заліваўся; даходзіла да вострых спрэчак паміж бацькам і сынам.

Барысаўка належала да Ласінскага прыхода. Тут адзначаліся два прыхадскія фэсты — на Юр'я і Пакрову. У кожнай хаце ладзілі багатае застолле. А на Каляды моладзь хадзіла з гвяздай. Калядоўшчыкі заходзілі ў кожную сядзібу, не пытаючы гаспадара ці прыме, ці не. Падобна было і ў Шчодры вечар (Гагатуху). Моладзь хадзіла таксама з велікоднымі віншаваннямі. Паколькі на Каляды ці Гагатуху калядоўшчыкаў абдароўвалі грашамі, каўбаскай ці крывянкай, то на Вялікдзень грашамі і валачобным (яйкамі). Яйкі прадавалі ў краме і за атрыманыя грошы і закуску моладзь арганізавала супольны святочны пачастунак.

Запісаў Уладзімір СІДАРУК

## Два бары

У Беластоку — многа бараў. Найбольш іх у цэнтры горада. Раніцай або ў абедні час я даволі часта заходжу падсілкавацца ў бар „Экспрэс" па вуліцы Складоўскай або ў бар „Сонечны" па вуліцы Сянкевіча. Яны ў зручным месцы і да іх лёгка трапіць. Абодва яны належаць да розных прыватных суполак.

Важна аднак тое, што ў іх можна добра з'есці і не дорага. У „Сонечным" прапануюць загадзя гатовыя абеды па 12 і 14 злотых. Можна таксама ўзяць нешта іншае паводле свайго жадання, напрыклад, яечню, амлет або свежа смажаную рыбу.

Штодзень у гэтых барах вараць чатыры розныя супы. Ёсць да выбару розныя стравы. Можна з'есці смажанае або варанае мяса з бульбай варанай у вадзе або печанай (такую, са скарынкай, пяклі мы ў прыску, пасвячы з братам статак кароў) ды з кашай і з розным вінегрэтам, катлеты, паштэцікі,наліснікі з сырам або яблыкам (па заказе паліваюць іх зверху салодкай смятанай або гарачым шакаладам). Шкада, што да наліснікӑў не падаюць какавы. Вараць толькі кампот і кісель. Увогуле зараз у барах няма ніводнай стравы з малаком. Можна заказаць гарачую каву і чай з лімонам. Ды чаго як чаго, але розных ахаладжальных напіткаў тут удосталь. Піва не падаюць.

У абодвух беластоцкіх барах вялікія вокны, відна, утульна ды ветлівае абслугоўванне. Стравы падаюць маладыя спрытныя дзяўчаты ў фірменных уборах. Яны хутка абслугоўваюць. У „Сонечным" бары можна таксама пачытаць свежую газету — „Kurier Poranny".

Вышэйзгаданыя бары не наракаюць на недахоп кліентаў. Найбольш іх бывае ў поўдзень. Заходзяць маладыя і старэйшыя наведвальнікі.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Што мы рабілі на XXXI Сустрэчах „Зоркі”? Падвядзенне вынікаў

„Гэта быў незвычайны досвед. Хаця мы былі кінуты на „глыбокія плыні” журналістыкі, рабілі гэта з вялікай зацікаўленасцю”, — піша ў сваім фельетоне Уля Марчук з сустрачанскай газеты „Васілёк”.

Сапраўды, як ніколі раней, праца ў рэдакцыях закіпела ўжо ў першы дзень і ў выніку ўзніклі ньюсы, размовы і вершы. Рэдакцый было тры: „Васілёк”, якую вяла Эва Іванюк, а пасля Інэса Гапанюк, „Белы слон” пад кірункам Клаўдзіі Галінскай і „(не) Тоўстая Газета” Максіма Фіёніка. На іх старонках каларытна і з гумарам адлюстраваны амаль усе падзеі, якія адбыліся ў час XXXI Сустрэч „Зоркі”. Вельмі важную частку публікацый складаюць размовы з гасцямі. У гэты раз да нас у Новае Ляўкова прыехалі гарадзенская журналістка і падарожніца Кася Ляўдацкая, радыёжурналіст Міхась Сцепанюк, мастак Міраслаў Здрайкоўскі, галоўны рэдактар „Нівы” і Радыё Рацыя Яўген Вапа, рэдактар Дыяна Нахіла, Аня Бяляўская і музычны гурт „Хутар” з Гарадка ды паэт Андрэй Сцепанюк. Мы ў сваю чаргу наведалі народную паэтку Веру Радзіванюк з Міхнаўкі, якая прыняла нас у сваім прыгожым доме, распавяла пра сваё жыццё і прачытала вершы. Сама паездка і сустрэча ўжо ў час майстар-класаў выспела ў фельетонах.

Менавіта на XXXI Сустрэчах „Зоркі” мы пазнавалі прынцыпы і тайны фельетона, знаёміліся з прыкладамі і размаўлялі з фельетаністамі. Развучыць гэты жанр натхніла жыццё. Якраз сярод сучасных сустрачан шмат асоб піша вершы і апавяданні.

Наталля Васько і Магда Бяляўская прачыталі нам свае вершы, дзякуючы якім заваявалі першыя месцы ў апошніх літаратурных конкурсах „Дэбют” і „Паз-

Фота Ганны Кандрацюк



Рэдакцыя «не Тоўстая газета»



# ... Шанаваць?

Ад вякоў людзі шанавалі зямлю, ведалі, што яна нас корміць. Шмат працы яны ўкладалі ў тое, каб выкарміць сваіх дзяцей. Вельмі цяжка працавалі, але заўсёды на іх тварах была ўсмешка. Да часу... Цяпер зямля страціла сваю тоеснасць. Служыць яна як тавар, якім можна таргаваць. Забываем мы пра вартасць яды, якая трымае нас пры жыцці, калісь так шанаваную. Напрыклад, людзі цалавалі — «перапрашалі» хлеб, які ўпаў на зямлю. Цяпер яго выкідаюць. Толькі ў мінулым годзе ў Польшчы змарнаваных было 9 мільёнаў тон яды! Гэта дае нам пятае месца на свеце. І што...

Гэтым ганарыцца не трэба...

Паставім пытанне: якая тут прычына такога марнатраўства? Ці гэта таму, што нам у жыцці так добра? Ведаеце, можа НАМ і добра, але для неграў у Нігерыі, ці жыхароў Сірыі зусім не да смеху. Аднак яны, як нашы продкі, часцей маюць усмешку на твары. А яны, у параўнанні з намі, не маюць нічога. Гэта парадокс! Мы хаця маем усё, не ўмеем гэтым карыстацца, багацце не дае мам радасці. Хочам усё больш і больш...

І аднаго дня акажацца, што не маем з чаго браць. Нам трэба пачаць думаць, што мы ідзем дарогай, якая вядзе ў тупік. Іншых людзей хутка не памяняеш.

Тады трэба пачаць мяняць сябе самога.

**Максім Фіёнік,**
«(не) Тоўстая газета»
(выпускнік бельскай «тройкі»)

най Беларусь". За іх прыкладам пайшлі многія ўдзельнікі Сустрэч, якія напісалі ажно чатырнаццаць вершаў, між іншым „Філасофія сну" Віктара Лінка, „Хмары і мары" Вікторыі Гаць, „Мой вечар" Эвы Іванюк, „Кошка і сабака" Паўліны Ёдлы. На гэтым полі ашаламіў усіх Іван Карсунскі, які ў сваім вершы „Фельетон" прыгадаў „тэхналогію" і асаблівасці гэтага жанру. Арыгінальнымі і каларытнымі падаліся нам апавяданні „Каменьчык" Караліны Каравай і Олі Зінкевіч ды „Галодны чарадзей" Віктара Лінка. Віктар размаляваў яшчэ суперфайны комікс „Прыгоды Пашы". Дарэчы, „(не) Тоўстая Газета" праявіла вельмі прыгожы дызайн, які стваралі, апрача згаданага Віктара, Магда Бяляўская і Клаўдзія Ніканчук. Клаўдзія прыдумала непаўторныя ілюстрацыі да падарожжаў Касі Ляўдацкай па Азіі.

Калі ідзе пра журналіцкія формы, дык тут вылучаліся сустрачане са шматгадовай практыкай: Максім Фіёнік, Клаўдзія Галінская, Оля Зінкевіч, Караліна Каравай, Уля Марчук, Магда Бяляўская. Вельмі пазітыўна ўразілі нас аўтары, якія першы раз прыехалі на Сустрэчы „Зоркі" і працавалі як старыя карэспандэнты. Вось будучы шасцікласнік Кандрат Косцін у журналістыцы адчуваў сябе як рыба ў вадзе. Ён прыдумваў небанальныя пытанні, апрацоўваў гутаркі з гасцямі, пісаў фельетоны і ньюсы і яшчэ перакладаў творы сябра з польскай мовы на беларускую.

Час назваць найлепшыя фельетоны. Як не цікава, шмат фельетонаў напісалі пачаткоўцы. Сярод іх трэба назваць фельетон „Азія без цэнзуры" Кандрата Косціна, „Жыццё нашых продкаў у XXI стагоддзі" Інэсы Гапанюк, „Беларускія стравы на кожны дзень" Мікалая Здрайкоўскага, „Сапраўдны сябар" Давіда Дзікоўскага. Сярод старэйшых сустрачан файныя фельетоны напісалі Оля Зінкевіч — „Што мы ядзім" і Караліна Каравай — „Дажджлівая экскурсія".

Найлепшым фельетонам, які ўзнік у час нашых майстр-класаў, аказаўся **„...Шанаваць" Максіма Фіёніка.**

І гэта не ўсё! Мы дамовіліся, што цягам канікул узнікнуць новыя фельетоны. Апошні выклік скіраваны да тых, хто хоча ўдзельнічаць у чарговых Сустрэчах „Зоркі".

Варта дадаць, што ўсе пачаткоўцы праявілі сябе як аўтары вершаў, казак ці малюнкаў, прытым некаторыя з іх, калі ехалі ў Ляўкова, не давяралі яшчэ, што нашы вучні могуць самі напісаць беларускі верш!

Самыя ўдалыя спробы і цікавейшыя працы нашых сяброў надрукуем у „Зорцы".

**** XXXI Сустрэчы „Зоркі", якія праходзілі ў днях 18-23 чэрвеня г.г. у Новым Ляўкове, фінансава падтрымалі МУСіА і Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства.***

**Ганна КАНДРАЦЮК, рэдактар „Зоркі"**

# Міхась Сцепанюк — сустрачанскі фельетаніст!



Прыехаў да нас Мішка Сцепанюк, радыёжурналіст, які калісь карыстаўся славай сустрачанскага фельетаніста. Міхась патлумачыў нам, што такое фельетон.

— Фельетон гэта не рэпартаж, не рэцэнзія, не ньюс, не інтэрв'ю... Дык што гэта ж такое? Фельетон гэта ўсё апошняе! — так пачаўся даклад.

Мы цяпер ведаем, што фельетон гэта жанр журналістыкі, у якім можам выказаць свае меркаванні на нейкую тэму. Пішам там пра ўсё, што здаецца нам цікавым і важным.

У час размовы з Міхасём мы даведаліся пра яго першае сустрачанскае каханне. На жаль, сёння ён ужо не памятае імя гэтай дзяўчыны.

Пачулі таксама гісторыю як Дарафея Фіёніка згубілі ў Ялоўцы. Пра гэтае здарэнне апавядалі тры асобы і кожная з іх прадставіла іншую версію. Міхась Сцепанюк сказаў нам, што праТрымаецца толькі тая версія, якую запісаў аўтар фельетона і яна будзе праўдзівай. Гэта была перасцярога, каб пры фельетоне, самым суб'ектыўным жанры, занадта не фантазіяваць і не прыдумваць фактаў.

Мы яшчэ даведаліся, што фельетаніст павінен чытаць кніжкі і падарожнічаць. Наш госць збіраецца з жонкай у час канікулаў наведаць Мадрыд, дзе ён вучыўся ва ўніверсітэце.

**Клаўдзія Галінская**,
«Белы слон»
(Гімназія № 7 у Беластоку)



Фота Ганны Кандрацюк

Рэдакцыя «Васілёк» з рэдактарам Міхасём Сцепанюком

**Эва Іванюк**,
рэдакцыя «Васілёк»
(Гімназія пры КШ № 3 у Гайнаўцы)

## Мой вечар

Вечар — ціхая хвіліна,
Для мяне новае жыццё.

Вечар — мінутачка,
Дзе сонца спатыкаецца
з зоркамі.

Вечар — асаблівы момант,
Калі я зусім другая.

Вечар — мой іншы свет.

# Польска-беларуская крыжаванка № 27-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 23-17:**

Міф, мат, аналіз, грошы, урочышча, кран, аматар. Мост, ура, гром, карона, ноч, машына, малыш, таз, ара.

Узнагароды, аўтаручкі з лагатыпам Бельскага белліцэя, выйгралі **Іаанна Нікіцюк, Дам'ян Карнілюк, Магдалена Якубюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Аліцыя Кастро, Габрыеля Кіяшка** з Шудзялава, **Мартына Барэвіч, Мартына Ігнатовіч, Моніка Суровец** з Бабік, **Якуб Міхальчук** з КШ № 3 у Гайнаўцы**.** Віншуем!

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Świt | Sukces | | As / Praca | | Soż / Plecak |
| Dom | | Mgnienie | | | | |
| | | | Rdza / Zapach | | | |
| Lipa / Bogactwo | | | | | | |
| | | | | | | |
| | | Cha! | | | | |



# Лавачка



Міхась АНДРАСЮК

У дзесяць гадзін вечара згасаюць вулічныя лямпы. Я не люблю хадзіць начной вуліцай з аднаго канца вёскі ў другі канец. Мне больш падабаецца пакласці левую далонь на штыкецінах форткі, накрыць яе правай, заціснутай у кулак, паставіць на гэты кулак падбародак, і глядзець. Калі стаіш у адным месцы, вобразы набіраюць вастрыню, дэталі вырастаюць да памераў сусвету, а вуха ловіць гукі няўлоўныя падчас хады.

Да форткі застаецца мне крокаў пяць, калі на вуліцы мільгае чалавечая постаць. Час набліжаецца да поўначы, людзі прыбралі начач усе незакончаныя справы, скаталі ў рулон няпройдзеныя сцежкі і прыхавалі іх за шчыльна зачыненымі вокнамі. Заўтра будзе новы дзень, вокны расчыняцца і ўсё пойдзе далей за маладым сонцам.

І хто ж гэта можа быць? Няўжо нехта паблудзіў у пушчанскіх прыцемках і праз здранцвелую ў балоце рэчку, праз некасі, што стаяць сухім трысцём вышэй галавы, пераправіўся на наш бераг?

Чую, як шоргаюць аб асфальт падэшвы ботаў, крокі замаруджваюць, прыціхаюць у траве і згасаюць на пяску, што рассыпаўся побач з лавачкай. Падыходжу да форткі, асцярожна выхіляю галаву з бяспечнай, абведзенай штыкетнікам клеткі панадворка. На лавачцы сапраўды сядзіць чалавек і глядзіць наперад сябе ў месячную поўню. Суконны пінжак, такія ж галіфэ, калашыны запушчаныя ў высокія халявы хромавых ботаў — усё гэта падказвае, што чалавек праравўся ў наш час наўпрост з далёкай мінуўшчыны. Так далёкай, што не сягае туды мая памяць.

Адтуль, дзе я прыпыніўся, бачны толькі профіль ягонага твару — нос з горбікам, вусік, выразнай лініяй накрэслены моцны падбародак. Знаёмы? Не, не ведаю хто ён. Мінае хвіліна і другая, і на гладкім палатне ўпэўненасці, што я ніколі раней гэтага чалавека не сустрэў, маленькай зморшчынай кладзецца няўпэўненасць — усё-ткі твар не чужы. Цяпер, на хуткую руку не атрымліваецца знайсці ў памяці тое месца дзе, і не прыгадаць, калі гэта было, але ж бачыць яго — я бачыў. Пакуль паспяваю павітацца, спытаць хто ён і чаго трэба, чую:

— Спраўна адчаканіў. Дубовая дошка, жалезныя стойкі, выстаіць не адно дзесяцігоддзе. Яшчэ і праўнукам тваім будзе прысесці.

У ягоным голасе знаходжу якісьці знаёмы колер, інтанацыя прыводзіць на думку прызабыты пах, ці смак, шукаю і не магу ўлавіць, што знаёмае грукаецца ў маю памяць. Можа таму, што я не спадзяваўся на такі пачатак размовы? Не такім жа словам заводзяць гутарку блудныя вандроўнікі, ім больш цікава куды дабрылі выпадковымі сцежкамі і як адсюль выбрацца ў свой, добравядомы свет. Пытаюць пра бліжэйшы вакзал, пра цягнік на ўсход, або на захад, а калі надта доўга шукалі выхад з замкнёнага кола, просяць кубачак чыстай, халоднай вады.

— Лавачка, як лавачка. Тая, што засталася ад бацькі надгніла, нахілілася. Прыбраў, а то возьме і на людскі смех праваліцца пад зямлю, сорамна будзе. І паставіў новую.

— Слушна зрабіў, — пагадзіўся голас. — На вуліцы павінна быць лавачка. І я тут сваім часам яе ставіў. А праваруч расла ліпа. Старая, вялікая ліпа, служыла халадком яшчэ майму дзеду. Памятаеш яе?

— Памятаю, — ківаю галавой, але думкі адыходзяць самі сабою, за голасам, а ён адрываецца ад лавачкі, няспешліва ўецца над вуліцай, як дымок з ледзь толькі раскладзенага вогнішча. Адлятаю ўслед, даганяю яго. Лаўлю словы, раскладаю іх на паасобныя гукі, на марфемы, праслухоўваю інтанацыю і націскі. Складаецца ўражанне, што месячная ноч не ноч ужо, а лянівая, сытая кошка — ахінулася ў мяккае футра і мурлыкае цёплым голасам майго бацькі Міхала, які — на словы бабы Веры — узяў гэты голас са свайго бацькі Дзмітрыя, а той са свайго, Уладзіміра, а Уладзімір з Мацфея, а Мацфей з Цімафея, і так далей, сцежкай імёнаў, нат калі яны сцерліся з памяці, можна вандраваць да пачатку пачаткаў.

Адчыняю фортку насцеж, падыходжу бліжэй.

— Прысаджвайся, — пасоўваецца на лавачцы, у галаве мільгае думка, ці сапраўды, не прысесці побач з ім, спрабую зрабіць крок, але нешта трымае мяне на месцы.

— Дзед Дзмітрый?

— Ну, а хто б яшчэ мог быць? — адказвае пытаннем на пытанне.

— Крыху іначай уяўляў цябе, — недаверліва паглядаю на ягоныя скроні, злёгку прыцярушаныя першай сівізной, на валасы, што ўсё яшчэ густым чубам выбіваюцца з-пад брыля.

Ловіць мой позірк, здымае кепку, пальцамі левай рукі зачэсвае назад чуб, што раптоўна ірвануў на волю. Дакладна такім жэстам папраўляў валасы бацька, калі, пагаліўшыся, затрымліваўся на хвіліну перад люстэркам, разглядаючы на твары новую маршчыну. — Бачыш? Ты цалкам пасівеў, а мне надалей сорак сем. Табе, напэўна, цікава, чаго я тут і чаму якраз сёння?

— Цікава, канешне. Ніколі ж раней... — шукаю слова, але дзед перабівае мяне:

— Быў я тут, быў не адзін раз, гэта цябе не было. Сёння выпала мне начная варта, схадзіў на Даліну, зазірнуў ва ўсе хаты, што пустуюць з давён-даўна, праверыў, ці не завялося там якое зло. Нават за вёску прайшоўся, на ўзгорак, дзе некалі стаяў Ёнашаў вятрак. І падумаў — зайду, пасяджу на нашай лавачцы. Бо, ведаеш, калі ў цябе начная варта, можаш прагуляцца па вуліцы, зайсці ў двор, у сад. Можаш нават перакінуцца словам са сваімі, калі ёсць нехта дома. Нам нельга лётаць за вамі па ўсім свеце, шукаць вас у далёкіх гарадах, у чужых краях. Надта вялікая рызыка — паблудзіш і не вернешся ніколі, нават на Страшны суд.

— А калі-колечы наладзіцца гэты суд? Хутчэй мы самі сабе яго наладзім, — кажу, але дзед не чуе, працягвае сваю думку:

— Раней хтосьці адзін заставаўся дома, на старым месцы, — усаджваецца выгадней, прыгладжвае чорныя вусікі. Маленькія, свавольныя птушкі злятаюць з цёплых, карых вачэй, лашчацца да вуснаў пуховымі пёркамі і куточкі вуснаў падымаюцца ў хлапечай усмешцы. І ўжо ведаю — гэтая ж тая ўсмешка, што з ранняга дзяцінства выходзіць да мяне са шлюбнага партрэта бабы Веры і дзеда Дзмітрыя.

Мне хочацца прысесці з ім пляча ў плячо і глядзець у неба, на адно кароткае імгненне сумеснае для нас дваіх. Час ад часу сунецца між застылымі зорамі кропка самалёта, як доказ, што свет не зламаўся, неба стаіць на сваім месцы, зямля на сваім і толькі, казытнутыя святлом поўні, перакульваючыся на другі бок сну, закранулі сябе нябачнымі далонямі.

— Дзеду, я хачу дакрануцца да тваёй далоні і баюся — а раптам яна адкажа холадам? Цяжкім, свінцовым, што зацягвае неба тоўстым ільдом, праз які не прарвацца ні зорам, ні самалётам. Як некалі далоні бабы Марыі. Як далоні бабы Веры, што ў нашай прысутнасці, у сваёй хаце сыходзілі ў непраснёны сон. І яшчэ — далоні бацькі і маці — скаваныя ветрам усіх ледзяных вятроў, бо прыйшлося ім адлятаць у адзіноце, з чужога ложка ў далёкім ад дому шпіталі.

— Баішся, пачакай, — кажа дзед. — Страх непрадбачлівы, адных абводзіць тоўстымі мурамі, дзе затыхаюцца без паветра, другіх можа разагнаць да хуткасці святла і яны ўсё жыццё збягаюць ад сябе саміх, ніколі не сустрэўшы на сваім шляху ні кветку, ні птушку, ні другога чалавека.

Дзед моўкне. Задзіраю галаву і бязгучна паражоўваючы начное неба, пералічваю зоры. Безліч іх і адна за адной сыходзяць на мяне, засоўваюцца за скуру халоднымі дрыжыкамі.

— Жанчыны таксама выходзяць на варту? — пытаю, каб якім-небудзь словам выціснуць, адштурхнуць ад сябе страх, што вісіць над галавой на чорных нітках цішыні.

— Жанчыны не, толькі мы. Жанчыны ткуць неба з кветак лёну, каб ніколі яно не закончылася. А малыя дзяўчынкі ўпрыгожваюць яго белымі воблакамі і каляровымі птушкамі. Неба без воблакаў і без птушак было б пустое і сумнае. А начная варта здараецца нячаста. Вас тут жменька, а нас там тысячы і тысячы, трэба здорава настаяцца ў чарзе.

— Што тут вартаваць, дзеду? Тут усё нармальна. Праўда, раней па-рознаму было, але цяпер — нармальна, начныя варты даўно адмянілі.

— Ізноў сядлаюць коней уладары злых вятроў. А коні іх — ураганы парывістыя і нясуць у грывах новыя межы. Конскія хвасты падменьваюць людзям сваю мову чужой, людзі гукаюць сябе, не знаходзяць і разбягаюцца па ўсім свеце. Там, таксама не знаходзячы сваіх слоў, плачуць па іх. Плачуць па іх на чужой мове, а калі на чужой мове пачынаюць адкрыта з гэтых забытых слоў смяяцца, губляюць сябе канчаткова. Калі сядлаюць коней уладары злых вятроў, трэба пільна сачыць за сваімі, трымаць адзін аднаго за рукі і вартаваць свае словы. — Заплюшчваю вочы і маю ўражанне, што дзед чытае невядомую мне кніжку. Чытае без памылак, месцам голас падплывае да шэпту травы, месцам, як звон, узлятае да неба і зусім не падобны ён на голас прадзеда Уладзіміра. Здзіўляюся, хочацца запытаць, дзе ён і калі авалодаў такое майстэрства, але пакуль расплюшчу вочы, голас вяртаецца ў добра мне вядомыя інтанацыі:

— Лішне адмянілі варту. Трэба яе трымаць пакуль у апошняй хаце не пагасяць святло.

Няўжо сапраўды не ўпільнавалі мы сябе, аддалі і словы, і ўсё астатняе і разбегліся хто куды? А ці яшчэ плачам па загубленых словах? І якой мове зразумелы наш плач?

Дзедавы вусны спадаюць уніз чорнымі птушкамі, а мне хочацца паўтарыць тую ўсмешку, што — прыжаўцелая — усё яшчэ стаіць, размаляваная на паперы шлюбнага партрэта. Узяць яе сабе пакуль цалкам знікне пад жоўтым пяском часу, вывучыць да апошняе жылкі і панесці далей. Мне трэба выратаваць яе, нават тады, калі яна ўсім, акрамя мяне, лішняя. Падымаю ўгару куточкі вуснаў і чакаю, ці свавольная птушка казытне вусны пуховымі пёркамі.

(працяг будзе)

# «Рамэа і Джульета» ў Гайнаўскім белмузеі



У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы 12 чэрвеня адбылася прэм'ера спектакля пастаўленага паводле п'есы «Рамэа і Джульета» англійскага драматурга Уільяма Шэкспіра. Тэатральная група, якая па-акцёрску паказала спектакль, дзейнічае пры Гайнаўскім белмузеі пяць гадоў, а яе склад увесь час мяняецца. Асабліва плённа дзейнічае яна пад апекай рэжысёра, сцэнарыста і акцёра Іаанны Стэльмашук-Троц. Рэзультат працы спадарыні Іаанны было добра відаць падчас прэм'ернага спектакля «Рамэа і Джульета», калі яе вучні паказалі свае акцёрскія здольнасці, якія разгортвалі пад апекай свайго рэжысёра. Іаанна Троц ужо многа разоў паказала, што ўмее працаваць з моладдзю, прывіць ёй любоў да тэатра, акцёрства, а адначасна трымаць дысцыпліну і паспяхова падрыхтаваць юных аматараў тэатра да паспяховага выступлення на сцэне. Так было і на гэты раз, калі вучні спадарыні Іаанны паказалі сваё майстэрства перад публікай у памяшканні Гайнаўскага белмузея, спецыяльна прыстасаваным для патрэб спектакля. Пазней Іаанна Стэльмашук скажа, што старалася, каб прэзентацыя шэкспіраўскай трагедыі «Рамэа і Джульета» адбылася не толькі на беларускай мове, але і ў беларускім антуражы, што было бачна ў сцэнічным і музычным афармленні спектакля. Прэм'ерная пастаноўка атрымала гарачыя апладысменты і вельмі добрыя водгукі з боку гледачоў.

Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, які адчыняў вароты ў прыстасаванае для тэатральных патрэб музейнае памяшканне і ўпускаў у яго публіку, сказаў, што ўжо раней перадаў гэтую залу спадарыні Іаанне і яе вучням, каб маглі там праводзіць рэпетыцыі і прыстасаваць яе для спектакля. Сцэнічнае афармленне спектакля «Рамэа і Джульета» было арыгінальным і цікавым. Спецыяльна збудаваны над сцэнай дах распасціраўся таксама над публікай, а сядзячыя месцы павышаліся ад першага да апошняга рада на падабенства тэатральнай залы. Прымацаваныя перад сцэнай вароты клуні адчыняліся і зачыняліся, калі мяняліся дзеі п'есы. Асацыяваліся яны з распаложаным побач токам і ператочам клуні, дзе ў мінулым адбываліся ў нас гасціны і танцы. Такое гасцяванне, танцы і нават бойка былі паказаны публіцы, якую ў асноўным састаўлялі жыхары Гайнаўскага павета і Бельска-Падляшскага. На спектакль прыбылі таксама прадстаўнікі Універсітэта ў Тэрэміскіх, дзе спадарыня Іаанна вядзе тэатральную дзейнасць з моладдзю. Расцягнутыя вакол сцэны шнуркі і развешаныя на іх засушаны зёлкі таксама стварылі клімат вясковага мінулага, у якім адбываліся дзеі гайнаўскай пастаноўкі «Рамэа і Джульета». Мінулае нашых зямель нагадвала таксама вопратка герояў спектакля і тэатральныя рэквізіты. Нашы песні і музыка рабілі пастаноўку класічнай драмы Уільяма Шэкспіра блізкай сабранай у белмузеі публіцы.

— У нашай тэатральнай групе займаюцца здольныя асобы. Таму я падумала паспрабаваць паставіць трагедыю «Рамэа і Джульета» англійскага драматурга Уільяма Шэкспіра. Каханне — з'ява ўніверсальная. Падзеі гэтай п'есы маглі адбывацца і ў іншым месцы на свеце, таксама ў нашых беларускіх рэаліях. Мне самой цікава было як атрымаецца адаптацыя гэтага твора на беларускай мове, з улікам нашай культуры, традыцыі, з нашымі песнямі, музыкай і сцэнічным афармленнем. Сам твор Шэкспіра «Рамэа і Джульета» доўгі і нам трэба было яго скараціць так, каб глядач зразумеў яго змест і наш зварот да беларускай рэчаіснасці, — скажа пасля спектакля яго рэжысёр Іаанна Стэльмашук-Троц.

Падчас спектакля «Рамэа і Джульета» ў зале панавала цішыня, а гледачы ўважліва сачылі за ігрой маладых акцёраў. Пасля спектакля ўдзельнікі белмузейнай тэатральнай групы выйшлі перад публіку, якая ўспрыняла іх бурнымі апладысментамі. Акцёраў павіншавалі і ўручылі кветкі іх апякун Іаанна Стэльмашук-Троц і дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк. Сямейнікі акцёраў рабілі ім здымкі. Пасля перапынку адбылася другая прэзентацыя пастаноўкі «Рамэа і Джульета».





■ Выступаючая моладзь і публіка падзякавалі Іаанне Стэльмашук-Троц за падрыхтоўку да спектакля «Рамэа і Джульета» (справа вучаніца Аляксандра Буслоўская)

— Мінае ўжо пяць гадоў, як у нашым белмузеі арганізуюцца тэатральныя заняткі. Найдаўжэй і вельмі плённа вядзе іх Іаанна Стэльмашук-Троц, якая патрапіла згуртаваць у тэатральнай групе многа вучняў. Мы рады, што сёння вучні выступілі паспяхова і сабралі так шматлюдную публіку, — заявіў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

Белмузейная тэатральная група, якая па-акцёрску паказала спектакль «Рамэа і Джульета», плённа дзейнічае пад наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц з 2013 года, калі ўдала выступіла са спектаклем на аснове драмы светлай памяці Сакрата Яновіча «Не пашанцавала» і быў ён свайго роду данінай у гонар Сакрату Яновічу. У 2014 годзе тэатральная група займальна выступіла з пастаноўкай «Паўлінка» Янкі Купалы, а ў канцы гэтага ж года па-акцёрску паказала спектакль «Бежанцы», які паспяхова прэзентавала на працягу 2015 года. У 2016 годзе белмузейная група цікава выступіла з пастаноўкай «Апошнія сведкі» на падставе аднайменнай кніжкі Святланы Алексіевіч «Апошнія сведкі», што адбылося пасля прысуджэння пісьменніцы Нобелеўскай літаратурнай прэміі.

— Мы многа працы ўклалі, рыхтуючыся да спектакля «Рамэа і Джульета». Асабліва многа займаліся ў апошнія два выхадныя дні, калі ўсе паасобныя сцэны трэба было аб'яднаць у адну цэласць. Варта было адвесці больш часу на падрыхтоўку да выступу, каб пераадолець усе складанасці, — сказала гайнаўская белліцэістка Анна Бяляўская, якая памайстэрску сыграла ролю маці Джульеты.

— Я пацiху разлічвала, што выступлю ў ролі Джульеты і мае прадчуванні здзейсніліся. Добра я адчувала сябе на сцэне, хаця, канешне, былі хваляванні ці ўсё атрымаецца як след. Я лічу, што «Рамэа і Джульета» ў нашай інтэрпрэтацыі не ёсць такой драмай як ва Уільяма Шэкспіра, паколькі канчаецца станоўча. Джульета, выпіўшы мікстуру, толькі засынае на нейкі час. Пасля каханне Рамэа і Джульеты прадаўжаецца, — сказала гайнаўская белліцэістка Дамініка Пуц, мнагакратная пераможца конкурсаў для дэкламатараў і расказчыкаў на беларускай мове. Займаецца яна таксама ў тэатральным гуртку ў Гайнаўскім белліцэі пад кірункам настаўніка беларускай мовы Яна Карчэўскага, які спачатку апекаваўся таксама тэатральнай групай белмузея. Прысутнічаў ён на прэм'ерным выступе сваіх вучняў у белмузеі і высока ацаніў іх акцёрства.

— Я добра адчуваў сябе як Рамэа, хаця прыйшлося доўга рыхтавацца, каб развучыць сваю ролю, — сказаў гайнаўскі белліцэіст Яцак Дружба. — Я здаўна займаюся ў Калектыве народнага танца «Перапёлка» ў ГДК, а ад нейкага часу выступаю ў народным калектыве «Верасы» з Чыжоў. Сёння, апрача ролі Рамэа, я таксама іграў на акардэоне і спяваў. Усё гэта было важным, каб спектакль атрымаўся ўдалым.

— Мы рады тэатральным заняткам з паняй Асяй і сённяшнім выступам, калі мы стараліся адчуваць сябе героямі драмы «Рамэа і Джульета», — заявілі Кацпар і Мікола Кэчынскія.

— Я пад вялікім уражаннем ад выступаў сваіх сыноў Кацпара-Ігара і Міколы, а таксама ад усяго спектакля. Наша моладзь выступіла па-акцёрску і гэта заслуга Іаанны Стэльмашук-Троц, у якой вялікія тэатральныя ўмеласці і адначасна дар працы з моладдзю, якая адчувае сувязь са сваім рэжысёрам і любіць яе, што я бачу на прыкладзе сыноў. Мой Кацпар-Ігар ужо многа гадоў вучыцца беларускай мове, але складана было яму атаясамлівацца з беларускай культурай і нацыянальнасцю. Калі пачаў займацца ў тэатральнай групе, заявіў, што беларуская культура стала яму вельмі блізкай і адчуў сувязь з беларускай нацыянальнасцю. Я рада, што тэатральныя заняткі і непасрэдны кантакт са спадарыняй Іааннай мелі такое станоўчае ўздзеянне на майго сына, — сказала Эва Мароз-Кэчынская.

Іаанна Троц удакладніла, што пасля выступу ў Бельскім доме культуры са спектаклем пра шматгадовага дырэктара Бельскага белліцэя Яраслава Касцыцэвіча, некалькі асоб занятых у гэтым спектаклі, вучні бельскай «тройкі», рашыліся ўспамагчы пастаноўку «Рамэа і Джульета». Побач гайнаўскіх белліцэістаў у спектаклі выступілі таксама гімназісты і вучні Комплексу школ № 3 у Бельску-Падляшскім.

— Мне спадабаліся выступленні маіх гайнаўскіх сяброў, якіх мы, вучні бельскай «тройкі», успамагаем у спектаклі, — заявіў Максім Фіёнік.

— Я рада сённяшняму выступу нашай тэатральнай групы. Пасля доўгіх рэпетыцый мы ажыццявілі нашу задуму, а вучні ўдала паказалі свае здольнасці. Частка маладых аматараў тэатра ўжо раней выступала на сцэне, — заявіла рэжысёр спектакля Іаанна Стэльмашук-Троц.

— Вучні паказалі сёння свае акцёрства. Я захоплена адаптацыяй драмы «Рамэа і Джульета» Уільяма Шэкспіра, — сказала былая настаўніца Марыя Балтрамюк, якая часта наведвае беларускія мерапрыемствы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Наша малая перамога

Знаёмства з творчасцю прафесара Анджэя Струмілы праходзіла ў школьнай бібліятэцы ў Крынках у рамках Тыдня бібліятэк. Былі фільмавыя дакументы, яго кніжкі з аўтографамі і мае ўспаміны з аўтарскай сустрэчы на сёлетнім Міжнародных таргах кніжкі ў Беластоку. Проста неабходна было расказаць дзецям пра чалавека высокай культуры, сумлення, мудрасці, з якім спалучае нас гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. У выпадку вучняў гімназіі цяжка сказаць наколькі іх гэта кранула. Звычайна яны ставяцца з вялікай стрыманасцю і непрыхаваным песімізмам да акружаючай іх рэчаіснасці. Інакш справа маецца з наймалодшымі, яшчэ веручымі ў светлую будучыню. Калі распавяла я ім пра магчымасць прыняць удзел у мастацкім конкурсе, адразу ўзяліся за працу. На бібліятэчных століках як грыбы пасля дажджу паяўляліся выявы Струмілы з жывінкай, Струмілы сярод дрэваў, у драўлянай хатцы, а нават Струмілы ў выглядзе каменя. На мастацкія конкурсы пасылалі мы ў гэтым годзе шмат прац, але толькі адзін раз атрымалася нечага дабіцца. І так на пачатку чэрвеня ў крынскую школу пазванілі з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, каб запрасіць на ўручэнне ўзнагарод.






Конкурс «Партрэт мастака» — адзін з этапаў святкавання Года прафесара Анджэя Струмілы ў нашым ваяводстве. Конкурс адрасаваны быў да дзяцей і моладзі з пачатковых, гімназічных і звышгімназічных школ Падляшша.

Як сказалі мне пасля ў ВААКу, прац надышло сапраўды шмат, большасць з іх на сапраўды высокім узроўні. Ацэнкай занялася камісія ў складзе Галена Марцінкевіч з Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, мастакі Лукаш Гірэнь і Збігнеў Вашчэнюк, інструктары мастацкага аддзялення Адам Сьляфарскі і Лілія Вышкоўская.

Адной з узнагароджаных стала Бася Булатэвіч — спявачка «Заранкі», вучаніца другога класа Пачатковай школы ў Крынках. Пытала мяне ці ўзнагароды будзе ўручаць пан Струміла, вельмі хацела яго спаткаць. Як выявілася, прафесар Струміла прысутнічаў на раздачы ўзнагарод, але нас з Басяй там не было. Якраз у той дзень нашы школьнікі паехалі страляць — гуляць у пейнтбол недзе ў Беластоку і нам трэба было застацца ў школе. Але ж усё такі вельмі хацелася паглядзець хаця б выстаўку конкурсных прац. Сапраўды, было на што паглядзець. Багацце мастацкіх тэхнік і спосабаў успрымання асобы прафесара. Некаторыя выявы былі настолькі сур'ёзныя і прадуманымі, што не пасаромеліся б іх нават дарослыя мастакі. Заўважна таксама была працавітасць маладых мастакоў. Майстэрства, дбайнасць пра дэталі і падрыхтоўка ў выглядзе добрага азнаямлення з жыццёвымі прынцыпамі прафесара.

Вельмі цешыць што ўсё-такі, нягледзячы на абставіны, расце нам уражлівае, разумнае маладое пакаленне.

У нашай размове Бася выявіла, што ў будучыні хоча паступіць у мастацкі ліцэй у Супраслі. Гэта ўжо другая асоба з яе класа, якая дае такую дэкларацыю.

Штодзень, як сама сцвярджае, малюе не так ужо часта. У асноўным, калі трэба нешта падарыць на дзень народзін ці імянін членам шматпакаленнай, багатай на дзяцей сям'і. Ну і вялікім штуршком з'яўляецца ўдзел у мастацкіх конкурсах.

Віншуем Басю з першай у жыцці перамогай і жадаем ёй далейшых поспехаў у галіне мастацтва.

Іаанна ЧАБАН




Хоць Беларусь і лічыцца беларускай краінай, беларускую мову ў штодзённым жыцці тамтэйшага люду сустрэць цяжка. Нейкія зрухі да лепшага, то-бок крыху часцейшага выкарыстання яе, сталі назірацца цягам пару гадоў. Аднак гэтыя зрухі надта слабыя, каб кардынальна змяніць сітуацыю. Разам з тым прыемна бачыць, што для многіх бізнесоўцаў у Беларусі беларуская мова не ёсць пустым гукам, і яны не лічаць яе непатрэбным чыннікам свайго жыцця і дзейнасці. Адным з прыкладаў паважлівага стаўлення да беларускай мовы з жаданнем яе як мага большага распаўсюду можна назваць кампанію „Салодкая крама".

Сайт фірмы месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://belsweetness.com. Выглядае даволі прывабна і нават па-дзіцячаму весела. Галоўная старонка аздоблена выявамі блакітнага неба з аблокамі і печыва. З трох моўных версій сайта — беларускай, рускай і англійскай, беларуская ёсць першай па змоўчванні.

„Кампанія «Салодкая крама» абрала кірункам сваёй дзейнасці стварэнне высакаякасных кандытарскіх вырабаў, прыгатаваных як па класічных рэцэптах, так і па арыгінальных сучасных. Мы імкнемся знайсці ключык да кожнага аматара салодкага. Бо ў дзяцінстве ў любым з нас жыў маленькі ласун, які марыў пра салодкае. Так хацелася з'есці яшчэ адзін пернік ці хаця б маленькі кавалачак улюбёнага ласунка. І калі нам шчасціла паласавацца салодкім удосталь — радасці не было канца... Мы рады магчымасці падзяліцца салодкім пачастункам з усімі дарослымі і дзецьмі, здольнымі ацаніць смак найлепшых кандытарскіх вырабаў. Наша кампанія працуе над пашырэннем асартыменту, каб у «Салодкай краме» кожны змог знайсці найлепшы ласунак да любімага напою", — распавядаецца ў адной з нешматлікіх рубрык сайта — „Пра кампанію".

У галоўнай ролі на сайце выступае авечка Адэля, якая нібыта і выпякае ўсе слодычы, што прапануе „Салодкая крама", а гэта печыва, пернікі і кукурузныя палачкі. Пра іх распавядаецца ў рубрыцы „Каталог", дзе прадстаўлена ўся прадукцыя фірмы.

Найбольш цікавай на сайце падаецца рубрыка „Дзіцячы пакой". Там авечка Адэлька дзеліцца сваімі думкамі і парадамі. Зразумела, што ўсе яны так ці інакш звязаныя з прадукцыяй „Салодкай крамы", а менавіта з рознымі спосабамі яе выкарыстання.

Таксама чытае авечка дзецям вершы, якія былі напісаны пра яе дарослымі. „Калі ў цябе, мой дружа, атрымаецца скласці верш пра мяне, авечку Адэльку, — дасылай іх на маю электронную скрыню!" — „просіць" галоўная гераіня сайта.

У падрубрыцы „Слоўнік", на якую можна выйсці, клікнуўшы на адпаведны кружочак на малюнку з Адэлькай, месцяцца беларускія словы з перакладам на рускую мову. Цікава, што тое ж самае, толькі наадварот, падаецца і ў рускамоўнай версіі сайта. Прычым і там, і там няма згадкі, пра тое, што гэта пераклад, а толькі „новыя словы". У англамоўнай версіі „Слоўніка" няма.

Няма нічога і ў рубрыцы „Навіны", што ідзе другой у цэлым пераліку рубрык. Гэта, несумненна, недахоп сайта, бо якаянiякая інфармацыя мусіць там падавацца, каб можна было ўбачыць, што фірма існуе і працуе. А працаваць ёй ёсць куды. Напрыклад, прадаваць прадукцыю „Салодкай крамы" не прапануецца патэнцыйным партнёрам з Польшчы, бо яе няма сярод краін, з якіх фірма чакае электронных лістоў.

Аляксандр ЯКІМЮК




Першы рэдактар «Бацькаўшчыны»



## 120 гадоў з дня нараджэння Лявона Савёнка

Беларускі пісьменнік і журналіст Лявон Савёнак нарадзіўся 26 чэрвеня 1897 г. у вёсцы Вялец (Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці). Пачатковую адукацыю атрымаў у Глыбокім. У Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, пасведчанне якой ён атрымаў у 1917 г., Лявон Савёнак вучыўся разам з будучымі дзеячамі беларускага руху — Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Пятром Мятлой, Міхасём Чаротам, іншымі будучымі вядомымі асобамі. У 1922 г. Лявон ажаніўся ў Мінску з настаўніцай Апалоніяй Радкевіч. У 1922 г. у сям'і нарадзіўся сын Лёдзік, а ў 1927 г. дачка — вядомая беларуская даследчыца Зора Кіпель.

У гады беларусізацыі Савёнак працаваў карэспандэнтам у газеце „Савецкая Беларусь", што тады выходзіла па-беларуску. Паводле ўспамінаў супрацоўнікаў, атмасфера ў рэдакцыі была мала падобнай да савецкай. Невыпадкова пазней газету, на старонках якой Лявон друкаваў свае вострыя рэпартажы і дасціпныя фельетоны, у даносах назавуць „утульным прыстанішчам беларускіх нацыяналістаў". У лютым 1929 г. Савёнак быў змушаны сысці з працы і працаваць на будоўлях. У той самы год выдаў збор фельетонаў „Чароўная іголка", які быў падпісаны псеўданімам Леанід Свэн. У бібліятэках кнігу першапачаткова каталагізавалі як пераклад шведскага аўтара. Але аўтарства хутка высветлілі і 3 тысяч накладу было знішчана. Карыстаючыся творчым метадам, які сучасны літаратуразнавец Лявон Юрэвіч называе фантастычным рэалізмам, гэты Свэн пісаў, прыкладам, пра судовы працэс над канём, які завёз следчага не ў тую вёску, дзе следчы ў дадатак напіўся ды згубіў „вельмі важныя справы".

З ліпеня 1932 г. Савёнак — стыль-рэдактар навукова-тэхнічнага выдавецтва. У 1933 г. ён быў арыштаваны ў ліку амаль дзесяці тысяч іншых суайчыннікаў па справе „Беларускага нацыянальнага цэнтра". Сваёй віны не прызнаў (гэта змаглі толькі каля 10 чалавек) і быў засуджаны да 5 гадоў савецкага канцлагера. Тэрмін адбываў спачатку ў Паўднёвай Сібіры, а пасля ў Алтайскім краі. Пасля вызвалення, у 1939 г. вярнуўся ў Беларусь. Аднак не меў дазволу жыць у Мінску. Працаваў настаўнікам у ваколіцах Крычава і Мінска.

З прыходам нацыстаў летам 1941 г. у Беларусь інтэрнаваны разам з іншымі мужчынамі ў Мінску. Некалькі тыдняў адседзеў на Камароўскіх балотах пад Мінскам. Потым працаваў журналістам у „Беларускай газеце". Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў беларускім лагеры ў Міхельсдорфе. Пасля разам з паплечнікамі стварыў беларускі цэнтр у лагеры для перамешчаных асоб Остэрхофен у Германіі. Менавіта там у 1947 г. пачала выдавацца газета „Бацькаўшчына", якой належыць выключная роля ў гісторыі нашай дыяспары. Пераехаўшы ў ЗША ў 1950 г., ён не пакідаў галоўнай справы свайго жыцця: апрача ўдзелу ў эміграцыйных камітэтах, рэдагаваў газету „Беларус", друкаваўся пад псеўданімам Лявон Крывічанін, уваходзіў у камісію для перакладу на беларускую мову Біблії. Сведчыў перад адмысловай Камісіяй Керстана аб савецкіх канцлагерах. Адным з ягоных найбліжэйшых сяброў быў аўтар музыкі да гімна „Магутны Божа" кампазітар Мікола Равенскі, з якім яны ў свой час захоплена лавілі рыбу на Дунаі.

Памёр Лявон Савёнак 21 лютага 1974 г. у горадзе Памона (штат Нью-Джэрсі, ЗША). Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку. У 1998 г. Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку выдаў кнігу Лявона Савёнка-Крывічаніна „Беларусізацыя пад №...".

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ







# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. правы прыток Волгі, якога левым прытокам Масква = 5 _ 29 _ 20 _;
2. найлепшая абарона ў... Атакаме = 32 _ 2 _ 34 _ 15 _ 7 _;
3. хімічны элемент н-р 2 = 31 _ 21 _ 6 _ 27 _ 24 _;
4. дыханне, пах, маральная сіла = 8 _ 30 _ 4 _;
5. партнёрка цела, якая можа залезці ў пяткі = 35 _ 18 _ 17 _ 36 _;
6. кароль саванны = 12 __ 13 __ 11 __;
7. тара з палатна для захоўвання сыпучых цел = 28 _ 37 _ 1 _;
8. важная карта = 14 _ 10 _ 26 _;
9. ін'екцыя = 25 _ 19 _ 3 _ 33 _;
10. пераплятаецца з асновай і хаваецца ў... куток = 16 _ 22 _ 23 _ 9 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | | | | | | |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | 22 | 23 | 24 | | | | | | |
| | | | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | | | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 24 нумара**

Азот, турнір, памост, Пінск, квіта, дына, доўг, волас, гультай, Ясенін, Занзібар.

Рашэнне: **Позні росквіт рабіны — да доўгай восені**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 02.07 — 08.07

**(22.03. — 20.04.)** Працавіты час, які прынясе нейкія змены. Трэба будзе прыстасавацца да новых умоў. Будзь спакойны, нават калі не ўсё пойдзе па тваёй думцы. Каханне зайграе першую скрыпку ў тваім жыцці. Мілыя сэрцу сюрпрызы і рамантычныя знаёмствы, таксама такія, дзякуючы якім здзейсніш амбітныя планы. Не кіруйся першым уражаннем. Змяні атачэнне, каб поўнасцю цешыцца сонцам. Набірай сілы.

**(21.04. — 21.05.)** Паверыш у сябе і ўласныя магчымасці. Спрыяльны час для мастацкіх поспехаў, а таксама ў латарэі. Прыцягнеш аматараў сваёй асобы, а ў пастаянных парах горача і жарсна. Псіхічнае ажыўленне і рэфлексія над сабой. Хаця будзеш падазроны, больш нервовы, шукаючы злой волі іншых. Пазбягай канфлікту, асабліва з блізкімі.

**(22.05. — 22.06.)** Усміхнешся, аптымістычна глянеш на свет. Пік формы. Калі пакажаш, што можна на цябе разлічваць, дасягнеш поспеху. Маеш шанц узяцца за справы, пра якія і не марыў. Выкарыстай гэты час, каб зрэалізаваць свае мары. Пільнуй тэрмінаў. Не давярай тым, хто цябе намаўляе на няпэўныя інтарэсы. Маеш шанц сустрэць асобу, якая задбае пра тваю прафесійную і матэрыяльную пазіцыю.

**(23.06. — 23.07.)** Грошы не будуць цябе трымацца, плануй выдаткі. Не рабі вялікіх інвестыцый. Без нерваў. Слухай сваю прароцкую інтуіцыю. Са сваіх турбот паспавядайся даверанай асобе. Не захапіся нейкай „ідэальнай" асобай, бо гэта можа быць толькі ілюзія. Рак у г.зв. другой маладосці можа перажыць файны флірт, які можа скончыцца сур'ёзна.

**(24.07. — 23.08.)** Адчуеш, што заслугоўваеш на тое што найлепшае і што надышоў час на рэалізацыю мараў. Не рэагуй гвалтоўна на крытыку, асабліва ў прафесійных справах. Забудзь пра крыўды з мінулага і даруй крыўдзіцелю. Будзеш больш сарганізаваны, засяроджаны на актуальных заданнях і пачнеш прадбачваць чарговыя, абмінаючы малазначныя пытанні. Зважай на хвілінныя знаёмствы, якія могуць шмат намяшаць у тваім жыцці.

**(24.08. — 23.09.)** Лепшыя моманты ў тваім жыцці! Набярэшся самаўпэўненасці, пераможаш нясмеласць, наладзіш каштоўныя знаёмствы. Маеш шанц разгарнуць крылы, дасягнуць поспеху ў прафесіі. Думай цвяроза, адэкватна ацэньвай сітуацыі. Настрой палепшыцца, будзе больш энергіі і ахвоты да дзеяння.

**(24.09. — 23.10.)** Вельмі працавіты час. Змабілізуй сілы, паафармляй важныя справы, парабі парадак у дакументах, высветлі ўсе непаразуменні. Праз тыдзень можаш атрымаць нейкую прэмію ці ўзнагароду. Раду атрымаеш ад асоб на адказных пасадах. Паверыш у сябе, свае ўмеласці і красу.

**(24.10. — 22.11.)** Невычэрпная энергія! Працавіты час, але перш за ўсё таму, што ўсё будзеш браць на сябе. Запануй над сваім працагалізмам! Справішся з выклікамі лёсу, выйграеш са слабасцямі. Зоймешся абмітнымі тэмамі, схочаш быць правадыром, апынешся ў цэнтры зацікаўлення. Магчымы выбух жарсці, закаханне з першага пагляду. У ліпені можаш сустрэць каханне свайго жыцця!

**(23.11. — 22.12.)** Не падвядуць цябе інтуіцыя і прадчуванне. Але будзь асцярожны пры пакупках, не купляй непатрэбшчыны. Будзе шанц карысна штосьці купіць ці прадаць, замяніць нерухомасць. Шмат у чым будзеш абавязаны памяркоўнасці, паслядоўнасці, розуму і практыцызму. Зайдзі на комплексныя прафілактычныя медабследаванні.

**(23.12. — 20.01.)** Зоркі заахвоцяць цябе да правядзення сур'ёзных змен у жыцці і ключавых рашэнняў. Чулая інтуіцыя шмат падкажа, асабліва артыстам. Але пільнуйся, каб не заблукацца ў юрыдычнай гушчы. Будзеш вабіць да сябе іншы пол. Не прымай прапановы заробку ад асобы, якой не ведаеш.

**(21.01. — 19.02.)** Выдатны настрой, жыццярадаснасць. Карысна складуцца юрыдычныя справы і дзеянні ва ўстановах. Новыя знаёмствы, цікавыя кампанейскія кантакты. Зрэалізуеш усё, што хочаш. Паправіцца здароўе, асабліва твой касцяк. Дзякуючы сваёй дыпламатыі і кантактам, пазбегнеш лёсавызначальнага здарэння.

**(20.02. — 21.03.)** Энергія, трываласць. Прафарсіруеш любую справу. Узрастуць твой прэстыж і верагоднасць Лёгка атрымаеш павышэнне, падтрымку ўплывовых асоб, заменіш працу на лепшую. Калі атрымаеш прапанову ўключыцца ў нейкія інтарэсы, пачакай з адказам, пакуль не разведаеш, ці няма ў тым падвоху.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**





# На задворках
## нашай вялікай вады

Злажу з аўтобуса ў Бандарах, а паколькі да канферэнцыі ў клубе „Карына” астаецца звыш трох гадзін цалкам свабоднага часу, рашаю прайсціся па наваколлі. З аўтобуснага прыпынку вяртаюся крыху назад, у краму, што быццам з боку Багнюкоў.

У краме дзве жанчыны — адна за прылаўкам, другая перад. Як то жанчыны — гутарка ў іх пра справы гаспадарскія. Гутараць пра страты, прычыненыя нядаўнім градабоем. Гутараць на мове сваіх мясцовых бабуль-прабабуль, дзедаў-прадзедаў. І я так цалкам, здавалася б, натуральна, заказваю на той жа мове бутэлечку вадзічкі, і прадаўшчыца таксама на той жа мове адказвае на мой заказ. Яшчэ пытаю пра дарогу ў блокі напрасткі і даведваюся, што сцяжынка пачынаецца акурат насупраць крамы.

Іду тою сцяжынкай. Яна спачатку вядзе мяне цераз кароткі лясок і неўзабаве выходзіць на агароды-ўчасткі. Гэта, па ўсёй верагоднасці, участкі насельнікаў блокаў, якія яны атрымалі як кампенсацыю за забраныя ім пад вадаём палі і сенажаці. Участкі тыя аброблены часткова, агул выглядае быццам шахматная дошка, дзе ў адных клетках культурныя расліны, у іншых, якіх большасць, прыродныя пасевы. Па дарозе мінаюся з дзвюма немаладымі асобамі, якія тою сцяжынкай з векавым дастаенствам крочаць туды, адкуль крочу я, значыць — у краму. І гэтая сцяжынка падаецца мне той пупавінай, якая звязвае блокавы народ з ягонай крамай-карміцелькай.

Блокі як блокі, у агульнасці застылі ў такім стане, у якім былі калісь здадзены ў карыстанне. Балконы-лоджы з сонечнага боку выглядаюць у агульнасці больш-менш так, як і згаданыя ўчасткі — значыць частка з іх забудаваная шклянымі сценкамі, а частка не; як шахматная дошка. З паўднёвага боку блокаў рады гаспадарчых коек, якія таксама нагадваюць шахматную дошку — у некаторых з іх гаражныя дзверы, у іншых традыцыйныя. Мабыць тыя койкі, так як і зямельныя ўчасткі, давалі жыхарам пасёлка як кампенсацыю за забраныя ім хлявы і клуні ды хатнія каморы і кладоўкі, каб абжытым раней звычаем маглі пагаспадарску заглянуць у сваю вонкавую маёмасць, паглядзець на свае рэчы, якія ўдалося забраць з сабою — кросны, калаўротак, веласіпед... Дзверы ў тыя койкі, ці то гаражныя, ці традыцыйныя, у большасці застылі ў такім стане, у якім іх уласнікі мелі сілы іх наведваць. І няспешна зарастаюць прыроднымі пасевамі. А прырода наша ненасытная — мала ёй традыцыйнай зямелькі; некаторыя дрэвы ўжо пазалазілі з каранямі на дах тых гаспадарчых радоў.

Перад адным з блокавых уваходаў крышку прыцярушаная часам шыльда лекарскага кабінета. Пытаю рэдкага ў даждлівае надвор’е прахожага, ці прымае там лекар. А так, прымае, прыязджае з Міхалова раз у тыдзень.

З паўночнага боку пасёлка спартыўная пляцоўка з футбольнымі варотамі, з нацягнутымі на іх сеткамі. На гульнявым полі расце прыстойная траўка. У якасці адной з аўтавых ліній эстрада. Для „Бандароўскай гасцёўні”, а можа і яшчэ для нейкага масавага мерапрыемства. Крыху збоку гульнёвыя прылады для дашкольнікаў. Спажывецкі кіёск, які пару гадоў таму прапанаваў сёе-тое жыхарам пасёлка, зараз закрыты. Засталіся на ім сімвалы татальнага патрыятызму — бела-чырвоны сцяжок для душы і эмблема піва „Жубр” для цела. Перад іншым уваходам шыльда святліцы і бібліятэчнага пункта. У суботу святліца мае адкрывацца апоўдні. Задумоўваю зайсці туды пазней, пабачыць.

Вяртаюся ў краму здаць бутэльку. Зноў загавораю на тутэйшай мове, але мая на паўгадзіну ранейшая субяседніца адказвае мне ўжо па-польску. Вось у краме, быццам моцна скандэнсаваны ў часе адбываецца тутэйшы моўны працэс. Яшчэ калі прысутнічала мясцовая жыхарка, то і прадаўшчыца неяк натуральна гаварыла з ёю на такой мове, якая замацавалася між імі з дзяцінства, а калі таго мацуючага фактара не стала, то і даўняя мова ўлятучылася.

Іду ў напрамку Рыбакоў і вузенькай вуліцай-асфальтоўкай кіруюся ў напрамку дамбы, а далей мроіцца мне дайсці на месца, дзе калісь была Лука, дзе была лучанская вуліца. У Луку ад Бандароў вяла калісь сялянская дарога ад скрыжавання дарог зараз за мостам. Проста пралягала дарога ў бок Тарнопаля — зараз гэта частка ваяводскай гора-асфальтоўкі № 687; направа адыходзіла дарога ў бок Слабодкі, а налева — у Луку. Апошняй дарогі ўжо няма — на яе месцы дамба і вадаём. Знаходжу нейкую дарогу ў лесе, па якой выходжу на ваду, але нейкіх слядоў вёскі там не знаходжу. Ёсць крыху больших камянёў, якія маглі выконваць ролю фундаментаў пад гаспадарскімі будынкамі. Адварочваюся ў напрамку вяртання і бачу ў дзесяці метрах ад сябе бусла. Прыляцеў, відаць, цяперашні гаспадар забалочанага берага паглядзець гаспадарлівым вокам на свой участак.

Пара падацца ў „Карына”. Насупраць Новай Лукі дашчэнту пабіты градам палетак жыта; у Беластоку градавыя снарады былі велічыні мажной чарэшні ці вішні. Мабыць і па лучанскім таксама прайшла такая кананада.

Канферэнцыя з нагоды круглаватага юбілею з’яўляецца неардынарным івентам, на які народ апранаецца па-журнальнаму. Не інакш было і цяпер, дзе джэнтльмены былі пад гальштукамі, а дамы выцягнулі з шафаў тыя свае тэкстыльныя жамчужыны, якія апранаюць раз у год а можа і менш. А я ж быў у цалкам пахадным строі, што магло падацца мужыцкасцю ў такім амаль версальскім антуражы...

Канферэнцыя скончылася, а перада мною зноў звыш трох гадзін свабоднага часу. Не чакаць жа ў Бандарах таго аўтобуса, калі можна прайсціся па няходжаных яшчэ дарожках. І зноў у бок Рыбакоў, забываючы пра святліцу ў блоках. Калісь у Бандарах была славутая на шырокае наваколле крама, дзе ў геркаўскі час можна было купіць „усё”. Перад гэтай крамай у той час заўсёды было поўна народу. Але ж сталася тут так, як і ў тлумачэнні біблейскага сну фараона: пасля сытых гадоў наступілі гады худыя, у тым і ў абагуленым, геэсаўскім гандлі. Славутая калісь крама згарнулася, у будынку нейкі час прабавала пратрымацца дыскатэка, а зараз той заслужаны будынак пустуе, уласнік хоча яе прадаць...




Побач даўняй крамы новы будынак пажарнага дэпо. У ім гаражная брама і звычайныя дзверы. З дзвярэй выходзіць мужчына, у якога пытаю, колькі пажарнікаў налічвае мясцовая каманда.

— Столькі, колькі трэба, — адказвае.

— Часта выязджаеце да пажараў?

— Тады, калі трэба. Міруць мяне завуць, а ты адкуль?

— З Ляўкова.

— То там у вас ліцвіны жывуць.

— А ў вас хто?

— А ў нас беларусы.

Наша тутэйшая зямелька, як відаць, шматнацыянальная.

З дэпо выходзіць яшчэ адзін мужчына, замыкае за сабою дзверы. Па ўсім відаць, што гэтыя два пажарнікі ў дэпо ўрачыста адзначылі сваё спатканне.

Кіруюся далей у дарогу, якою калісь-калісь калясіў, якая калісь вяла з Бандароў у напрамку Шымкаў. На вялікі жаль, з таго часу мой успамін пра гэтую дарогу зусім выветраўся. Даўняя тая дарога зараз залітa вадою. Недалёка пляж, а яшчэ бліжэй ландшафтная вышка. Лезу туды разглянуцца; агульна відаць тое, што і з зямлі, толькі ў крышку іншым аспекце. Вышкі дах пабудаваны на канструкцыі, у якой любяць адпачыць тамашнія птушкі. І тыя птушкі пакідаюць у свой вольны час багатыя сляды на лесвіцы; можа хочуць спрацівіць людзям уваход на вышку, каб не любаваліся тым відам, які прырода прызначыла толькі ім, птушкам...

Недалёка памятка па вёсцы Рудня: цэментны крыж з 1943 года і пліта з 2006 года, дзе кароткая гісторыя вёскі — з 16-га стагоддзя па 1992 год; 25 гадоў таму Рудня спыніла сваё там існаванне. Лешак Нос у манаграфіі Міхалоўскай гміны напісаў, што ў 1857 годзе ў вёсцы пражывала 57 душ, з якіх больш чым палова памерла ў чарговых гадах ад пошасці тыфу і халеры. У 1946 годзе вёска налічвала 128 чалавек, у 1950 — 113, у 1960 — 101, у 1970 — 88, у 1980 — 52, а ў 1990 — нікога...

Лясной дарогай падаюся ў бок ялоўскай шашы, каб там забрацца на аўтобус у Беласток. Нядоўга трэба было чакаць таго аўтобуса, які, пакуль, ехаў у Ялоўку. Здзівіла мяне, што ў яго сямятыцкая рэгістрацыя. Калі я ў салоне папрасіў білет, шафёр спытаў якая гэта мясцовасць. Аказалася, што шафёр недзе ад Дубровы і яго экстранна скіравалі ў курс да Ялоўкі; мясцовых маршрутаў ён не ведае. А аўтобус узялі з Сямятыч, бо беластоцкія ў рамонце...

Каля Шымкаў звяртаю ўвагу, што, паводле раскладу, павінен ехаць у Навасады і Залешаны. Правярае ў сваім графіку і далей кіруецца падказкамі маімі і іншых пасажыраў. На прыпынку за Навасадамі чакае двое пасажыраў; калі б шафёр ехаў больш самотна, яны аўтобуса не дачакаліся б. І вяртаючыся інфармую, што ў Юшкавым Грудзе трэба павярнуць у Бандары. Тут чакаў аўтобуса пасажыр у Багнюках. І ў Новай Волі. І ў Міхалове трэба было падказваць.

У Міхалове адна пасажырка не заходзіць у салон толькі неспакойна перашуквае сваю сумку. Дадумваюся, што шукае кашалька. Жонка майго знаёмага, які прывёз яе ў Міхалова, а сам вярнуўся да пажылелкай матулі. Сітуацыя амаль як на матушцы-Волзе са Сценькам Разіным і персідскай прынцэсай: „І за борт её брасает в набежавшую валну”... Але да Разіна іншага падабенства няма — сужонства вельмі прыстойнае. Заклікаю яе ў салон, аплачваю ейны білет. Сапраўды, кашалёк астаўся ў мужа...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 27